PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 3 (2175) Год XLIII Беласток 18 студзеня 1998 г. Цана 1 зл.



*Сустрэча з каляднікамі.* Фота Уладзіслава ЗАВАДСКАГА

# На каталіцкія Каляды ў Мінску

Беларусь гэта адзіная краіна ў свеце, дзе Хрыстова Нараджэнне як дзяржаўнае свята адзначаецца двойчы, паводле старога і новага стыляў.

Сёлета давялося мне наведаць Мінск якраз у час „першых" Каляд. Ехаў я з намерам упрасіцца на Куццю да кагосьці са сваіх сяброў-католікаў. На месцы выявілася, што ажыццявіць гэты намер немагчыма. І не з прычыны негасціннасці мінчан — проста ніхто са знаёмых католікаў Куццю не спраўляў. Нехта можа і святкаваў, але не хапіла мне часу і настойлівасці, каб званіць і шукаць такіх. У выніку, калядны вечар правёў я за пляшкай віна ў праваслаўнага земляка Валодзі Паца і яго маладой жонкі-мінчанкі Тані.

Раней, у сем гадзін вечара, пайшоў я на Пастэрку у г.зв. „чырвоны" касцёл (святых Сімяона і Алены) на Плошчы Незалежнасці.

Касцёл быў поўны. Ля ўвахода наглядаўся невялікі рух — прахожыя заглядалі, што гэта такое адбываецца ў касцёле. Некаторыя нават не здымалі з галоваў вялізных футравых вушанак, улюбёнага галаўнога ўбору мужчынскага полу.

Усяночная пачалася польскай калядкай „Wśród nocnej ciszy", аўтарства нашага земляка Францішка Карпінскага. Хор спяваў так неймаверна павольна, так расцягваў кожны радок, што карэнны паляк, мусіць, завыў бы ад роспачы, чуючы такое. Пасля адспявалі яшчэ „Przybieżeli do Betlejem", а далей пайшла беларускамоўная імша.

Наогул у каталіцкай царкве пашыраецца беларусізацыя. Нават кардынал Свёнтак ламаў язык, звяртаючыся да народу з калядным пасланнем на беларускай мове. Усе знаёмыя назіральнікі згодна запэўнівалі мяне, што паскораная беларусізацыя — гэта заслуга прэзідэнта Лукашэнкі, які некалькі разоў намякнуў быў публічна на нейкіх агентаў чужых дзяржаў.

На першы дзень Калядных святаў я паехаў у Заслаўе, у гісторыка-культурны музей-запаведнік. У гэты дзень у запаведніку ўрачыста адкрывалі свіран. З гэтай нагоды наладжаны быў маленькі народны кірмаш. Паказваліся сцэны з ярмаркі і калядаванне з мядзведзем і казою. Рэлігійных матываў у калядных гульнях я не заўважыў. Сярод нешматлікай публікі панавала атмасфера натуральнай забавы. Поўдзень у Заслаўі запісаўся ў маёй памяці колерамі народных строяў на белым снезе, якога тады яшчэ было поўна, і святочным настроем. Пасля кірмашу наведаў я яшчэ касцёл, які адбудоўваецца дзякуючы дзяржаўнай датацыі (тры гады па 2 мільярды рублёў) і працы нешматлікіх прыхаджан. У 30-тысячным Заслаўі актыўных католікаў усяго 150 чалавек, але ў адбудову касцёла ўкладаюць яны ўсю душу.

Зведаў я таксама і старадаўнюю царкву (пабудаваную ў XVI ст. як кальвіністкі збор). Царкву трэба будзе рамантаваць, бо згарэла ў сярэдзіне. Чаму гарэла, кажуць па-рознаму: ці-то падпалілі сатаністы, ці-то сам бацюшка, выплаўляючы свечкі.

Папаў я на момант і на святочны прыём, які наладзілі супрацоўнікі запаведніка для ўсіх, хто ў ім працаваў, працуе і з ім сябруе.

Аказваецца, святочныя сустрэчы сяброў па працы і змаганні гэта новазароджаная традыцыя ў Беларусі. Вечар правёў я ў рэстаране на Траецкім прадмесці, дзе прыём наладзілі супрацоўнікі Музея Багдановіча і газеты „Свабода". Стол быў багаты, строі, асаблівва дам, вечаровыя. Наогул, як у нас на Сільвестра „па-раз першы і другі", так што я мог надзець нават матылёк. Толькі ногі ў танцы ніяк не патраплялі ў такт расейскай „папсы", якая лілася з эстрады.

Асабліва запамяталіся мне з гэтага вечара тосты. Як дырэктар Музея Алесь Бяляцкі, так галоўны рэдактар „Свабоды" Ігар Гермянчук прапаноўвалі згодна і незалежна (Гермянчук спазніўся і не чуў тосту Бяляцкага) выпіць за перамену ў новым годзе. Хіба ж трэба лепшага доказу небеларускасці апазіцыянераў? Сапраўдныя беларусы за тое, каб не было горш, а перш за ўсё за тое, каб не было вайны.

Наступныя тры дні мінчане святкавалі з сям'ёю і сябрамі або адпачывалі. Пасля доўгіх святкаванняў-несвяткаванняў сяк-так працавалі ў панядзелак. У аўторак пасля поўдня ўжо развіталіся са старым годам у кампаніі сяброў па працы і змаганні. На галоўных вуліцах сталіцы быў страшэнны рух, з якім і не параўнаць „шал святочных пакупак" у правінцыйным Беластоку. Метро безупынна выплёўвала натоўпы людзей, прагных купіць падарункі на Новы год.

Менавіта Новы год па савецкай традыцыі лічыцца ў Мінску самым сямейным святам. Усе праваслаўныя знаёмыя бажыліся, што праваслаўныя Каляды выглядаюць у Мінску таксама ніштожна, як каталіцкія.

Пад Новы год з'явілася ў горадзе сякая-такая ілюмінацыя, напрыклад, чырвоныя зоркі на вяршынях ялінак.

Новага года ў Мінску я ўжо не дачакаў. Насычаны ежай і напіткамі павалокся я дахаты, каб сабраць сілы на святкаванні наводле старога стылю.

**Алег ЛАТЫШОНАК**

## У нумары

# Мы прачыталі

*Ад адсутнасці дысцыпліны і парадку будуць цярпець перш за ўсё простыя людзі,* — сказаў Аляксандр Рыгоравіч, прэзідэнт Беларусі.

*Звязда, н-р 234 (1997 г.)*

* * *

*W 1935 r. na życzenie Stalina wydano dekret zezwalający na karanie śmiercią osób, które ukończyły 12 lat, co motywowano wysoką dojrzałością prawną i polityczną obywateli sowieckich. W istocie szło o możliwość szantażowania więźniów losami dzieci.*

*Pierwszą gigantyczną czystkę aparatu partyjnego przeprowadzono w 1936 r. Śledztwo objęło 500 najwyższych funkcjonariuszy partii bolszewickiej. Rozprawa, jawna i propagowana na cały kraj, była pierwszym aktem dramatu w teatrze Józefa Stalina. Przebiegała według wyćwiczonego i powielanego później scenariusza. Historyczni przywódcy partii zasiadając na ławie oskarżonych prześcigali się w fantastycznych samooskarżeniach. Wynikało to ze strachu, nacisku psychologicznego, tortur fizycznych, a także złudnej nadziei na łaskę. Jeżeli w pierwszych latach rewolucji w Czeka obok bandytów i sadystów byli tylko oszalali fanatycy, to w latach trzydziestych zastąpił ich typ bezideowego samoluba i karierowicza czerpiącego sadystyczną rozkosz z bezgranicznej władzy nad ludźmi, których męczył i torturował. Domeną bolszewików było „lepiej niech ucierpi dziesięciu niewinnych, niż gdybyśmy przeoczyli jednego winnego". I cierpiały miliony niewinnych, ale porządek był..., sowiecki. W 1937 roku wymordowano 40 tys. kadr generalskich — 75 proc. stanu oficerskiego armii sowieckiej. Ze 139 członków KC stracono 99 (71,2 proc.), Centralna Komisja Rewizyjna straciła 80 proc. składu. Z 1 966 delegatów na XVII Zjazd pod kule enkawudzistów poszło 1 108. Stalin osobiście podpisał 44 tys. wyroków. Dla NKWD i prokuratorom wydzielono normę na 1937 r. wymordować 4 proc. populacji. W następnym roku normę znacznie podwyższono.*

*Gazeta Wyborcza, nr 300 (1997 r.)*

* * *

*Dokopanie innym jest prostym, tanim sposobem uzyskania spokoju wewnętrznego. Chętnie po ten środek sięgamy. Zapominamy jednak, że jest to postawa zakompleksionych, bezradnych, zaprogramowanych na porażkę. Nie szukają oni sukcesu, tylko wymówki, dlaczego powodzenie ich omija. Żałosna broń słabych.*

*Kurier Poranny, nr 300 (1997 r.)*

* * *

*Wielu władców twierdziło, że występuje z poręki Archanioła, zwykle Michała, którego walka ze Smokiem — Szatanem pozwalała każdemu rębajle widzieć siebie w roli Wielkiego Rycerza, jednak państwo boże tu na ziemi nie istnieje i istnieć nie może. Takim samym uproszczeniem jest przypisanie sobie przez Rosjan chorągwi Michała Archanioła, jak nasze koronowanie Bogurodzicy na Królową Polski. Takie bluźniercze nadużycie władzy duchowej Niebo pokarało upadkiem — Polski w wyniku rozbiorów, Rosji utratą imperium.*

*Wszelkie unarodowienie i upaństwowienie aniołów jest diabła warte. I mści się — jak w przypadku rosyjskim XVIII i XIX wieku — stworzeniem nieludzkiego ustroju opartego na ucisku, wojnach i zbrodni, lub — jak w przypadku polskim — stworzeniem kultury politycznej opartej na gnuśności, egoizmie i karygodnym zadufaniu niż na pracy i zdyscyplinowanej służbie na rzecz wspólnego dobra. Lepiej więc zwolnić Boga, Maryję, wszystkich świętych i archaniołów od politycznej opieki nad naszymi nieudolnymi tworami politycznymi.*

*Polityka, nr 52 (1997 r.)*

* * *

*Беларускую культуру выратуюць законы,* — сказаў Мікалай Шаўцоў, намеснік старшыні Пастаяннай Камісіі па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

*Беларусь, н-р 11 (1997 г.)*

Ніхто не сумняваецца, што заканадаўства нейкай лукашэнкаўскай Палаты выратуе беларускую культуру. Найлепшыя сыны нашага люду з дубінкамі ў руках пастаянна на вуліцах дэманструюць найвышэйшы ўзровень культуры ўладальнікаў Беларусі.

* * *

*Сцiснуўшы зубы, мы перайшлі крытычны рубеж і цяпер можам сказаць, што самае горшае ў нас у мінулым.*

*Звязда, н-р 238 (1997 г.)*

Віншуем!

* * *

*Курыны дэфіцыт у гандлі жыхары Мсціслаўскага раёна адолеюць паспяхова — квактухі ёсць на кожным панадворку. Шампанскае ў хатніх умовах вырабіць цяжка. Але саматужны пярщак...*

*Народная газета, н-р 265 (1997 г.)*

Яшчэ раз віншуем!

# З мінулага тыдня

**Усе асобы польскага паходжання** з усяго свету атрымалі з новым годам права на вяртанне на радзіму і атрыманне польскага грамадзянства. Аднак улады не маюць абавязку забяспечыць іх кватэрамі і месцамі працы на бацькаўшчыне. Ва ўсім свеце жыве каля дзесяці мільёнаў палякаў, у тым ліку два мільёны на тэрыторыі былога Савецкага Саюза. Мяркуецца, што ўдвая больш асоб можа даказаць польскае паходжанне. Паняцце „польскае паходжанне" расцягваецца не толькі на этнічных палякаў, але і на нацыянальныя меншасці, якія жылі на тэрыторыі Польшчы да 1939 года.

**Дзевяноста лекараў** хуткай дапамогі з Гайнаўкі, Бельска-Падляшскага і Сямятыч згадзіліся прадоўжыць на месяц дагавор аб працы. Пратэст лекараў, якія патрабуюць павышэння зарплаты і лепшых умоў працы, пачаўся ў ліпені мінулага года. Калі акцыя не дала выніку, лекары заявілі, што з канцом года пакідаюць работу. У апошні дзень года ўлады паабяцалі лекарам вырашыць іх праблемы на працягу месяца.

**Праваслаўныя вязні** (каля дваццаці чалавек — польскія грамадзяне і чужаземцы) прынялі ўдзел у куцці, сарганізаванай у Следчым ізалятары ў Беластоку. На запрашэнні кіраўніцтва гэтай установы да некаторых зняволеных прыехалі сем'і. „Малітва для вас неабходная дзеля таго, каб напаўняць надзеяй, даць натхненне на лепшую будучыню", — сказаў праваслаўны капелан вязняў а. **Уладзімір Цыбулінскі**. Сямейныя калядныя куцці, каталіцкія і праваслаўныя, ладзяцца ў беластоцкім арыштце ўжо восьмы год і трактуюцца як важнае звяно ў працэсе рэсацыялізацыі вязняў. Зараз у Следчым ізалятары прабывае амаль 600 чалавек, сярод якіх ёсць беларусы, расіяне, літоўцы, латышы і немцы. Турэмная адміністрацыя не вядзе канфесійных статыстык, але мяркуе, што ў арышце сядзіць каля 50 праваслаўных.

**Бюро для ромаў** будзе адкрыта ў Беластоку. У ім грамадзяне цыганскай нацыянальнасці будуць мець магчымасць атрымаць юрыдычную дапамогу. „Трэба ведаць законы краіны пражывання. Гэтыя веды неабходныя па дзвюх прычынах: каб шанаваць законы і каб ведаць свае правы", — сказаў **Станіслаў Станкевіч** — старшыня Рады ромаў і галоўны рэдактар часопіса „Ром по дром". У бюро працаваць будуць некалькі ромаў і юрыстаў.

**Зімнія канікулы** для вучняў пачатковых і сярэдніх школ Беластоцкага ваяводства адбудуцца ў днях 26 студзеня — 7 лютага 1998 года. Аднак па фінансавых прычынах толькі нямногія дзеці пакарыстаюцца арганізаванымі формамі зімовага адпачынку.

**Невядомы злачынец** узламаўся ноччу ў кватэру пасла Сейма ад нямецкай нацыянальнай меншасці і заадно старшыні Нямецкага грамадска-культурнага таварыства **Генрыха Кроля** ў Крапкавіцах Апольскага ваяводства. Цераз зачыненыя дзверы гаража ўзломшчык дастаўся ў будынак і ў часе сну гаспадароў украў кашалькі з вісячай на першым паверсе вопраткі. Здабычай злодзея сталі 700 зл. і ровар. На думку парламентарыя, здарэнне гэтае не мае палітычнай падаплёкі.

**Беларускія валейбалісткі** перамаглі на Навагоднім турніры на кубак прэзідэнта горада Беластока. За спартсменкамі „Нёмана" Гродна апынуліся абедзве каманды АЗС Беласток і валейбалісткі „Гексы" Коўна.



# Весткі з Беларусі

**Міцкевічаўскі аргкамітэт**

Пастанову аб стварэнні Нацыянальнага арганізацыйнага камітэта па падрыхтоўцы і правядзенні мерапрыемстваў у гонар 200-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча прыняў Савет Міністраў Беларусі. Гэты дакумент быў падрыхтаваны ў адпаведнасці з указам прэзідэнта аб святкаванні 200-годдзя з дня нараджэння паэта Адама Міцкевіча. У склад аргкамітэта ўвайшлі прадстаўнікі шматлікіх міністэрстваў, шэрагу дзяржаўных камітэтаў і апарату ўрада, адміністрацыі прэзідэнта, творчых саюзаў, грамадскіх арганізацый і мясцовых органаў улады. Нацыянальны аргкамітэт узначаліў віцэ-прэм'ер Уладзімір Замяталін, а яго намеснікам назначаны міністр культуры Аляксандр Сасноўскі.

**Спіс помнікаў**

Брэсцкі аблвыканкам зацвердзіў пералік гістарычных аб'ектаў, якім патрэбна неадкладная рэстаўрацыя. Першым у гэтым спісе стаіць мемарыяльны комплекс Брэсцкая цытадэль-герой, затым гарнізонная царква на яе тэрыторыі, 15 аб'ектаў у цэнтры Брэста, шэраг паркавых ансамбляў. Усяго ў спіс уключана звыш паўсотні помнікаў архітэктуры, гісторыі і культуры. А неўзабаве будзе праведзена комплекснае абследаванне гісторыка-культурнай спадчыны вобласці з мэтай выяўлення няўлічаных гістарычных і архітэктурных аб'ектаў.

**Клятва навабранцаў**

У пераднавагоднія дні ў вайсковых часцях рэспублікі па традыцыі прымаюць прысягу ваеннаслужачыя восеньскага прызыву. Клятву на вернасць радзіме далі 250 навабранцаў першай асобнай спецыяльнай матарызаванай міліцэйскай брыгады ўнутраных войск. Ва ўрачыстай абстаноўцы, з удзелам бацькоў і блізкіх яны пакляліся свята выконваць свой воінскі абавязак. Перад прысягай юнакоў блаславіў на ратную службу святарнік служыцель Праваслаўнай царквы.

**Хваравітыя жанчыны**

Рэпрадуктыўнае здароўе жанчын Беларусі можна ацаніць як пагражальнае і з тэндэнцыяй да пагаршэння, — такое меркаванне выказалі ў Міністэрстве аховы здароўя. У мінулым годзе 51% жанчын-мянчанак мелі захворванні; у 24% цяжарных, якія стаялі на ўліку, галоўнай паталогіяй была анемія. Нармальныя роды зафіксаваны толькі ў 11% выпадкаў, ускладненні мелі 58% жанчын. На дыспансерным уліку ў жаночых кансультацыях з прычыны хранічных гінекалагічных хвароб стаіць каля 5% усяго жаночага насельніцтва Менска. Беларусь займае трэцяе месца (пасля Расеі і Румыніі) па колькасці абортаў, якія прыпадаюць на колькасць народжаных. У мінулым годзе ў краіне зарэгістравана больш як 75 тысяч самаадвольных штучных абортаў.

**Хрысціянская выстаўка**

Новая культурная старонка адкрыта ў гісторыі беларускай Праваслаўнай царквы. Упершыню за апошнія восемдзесят гадоў у Менску пачала функцыянаваць пастаянна дзеючая выстаўка работ мастакоў, арыентаваных на хрысціянскія каштоўнасці. Экспазіцыя размясцілася ў магазіне „Праваслаўная кніга" па вуліцы Берасцянскай.

**Гранічны кантроль**

З нуля гадзін першага дня гэтага года пачалі службу пагранічнікі Гомельскага пагранічнага атрада. На граніцы з Украінай уведзены пашпартны кантроль. Дарэчы, Пінскі пагранатрад пачаў ахоўваць мяжу з Украінай амаль два месяцы таму, а паўднёвыя суседзі ўвялі гэтую службу яшчэ ў 1994 годзе. Там, дзе беларуска-ўкраінская мяжа праходзіць па рэках, плануецца задзейнічаць брыгаду рачных катэраў.

**Аўтобусы без грузу**

З 1 студзеня 1998 года забаронены пропуск цераз дзяржаўную граніцу рэспублікі, а таксама праезд на аўтамабільных дарогах агульнага карыстання аўтобусаў, у салоне якіх замест сядзенняў ці на іх размешчаны груз. Такое рашэнне прынята на аснове сумеснага загаду Дзяржкамітэта пагранічных войск, Міністэрства ўнутраных спраў і Міністэрства транспартнай камунікацыі Беларусі. Беларускія пагранічнікі праінфармавалі аб гэтым сваіх польскіх калег на сустрэчы ў Брэсце.

# „Герады” з Трывежы

— Тыя „Герады” бычка мне каштавалі, — прызнаецца Міхась Гаўрылеўскі з Трывежы.

Мой субяседнік называе самыя вялікія затраты: касцюмы для акцёраў, начлегі ў гасцініцы, падарожжа ў Кракаў, сцэнарый.

А чаму пачаў ладзіць камерны тэатр у такой абязлюдзелай ужо і састарэлай Трывежы? Мясціны, дзе весялосць і гульня найхутчэй асацыююцца з выпіўкай.

— Бо хацеў, — кажа Міхась Гаўрылеўскі, — каб людзі весялей Каляды святкавалі.

**Апякунка выйшла замуж**

— Ён чалавек вучоны, не думайце, — паказвае мне дарогу бабуля з цікаўнымі вачыма. — А вам, то чаго ад яго трэба?

Міхась Гаўрылеўскі жыве ў белай аборы, трыста метраў за вёскай. Імглістае надвор'е зусім ахутала сядзібу. Быццам і яно хацела дастроіцца, як пазней высветлілася, да рамантычнага, змагарскага лёсу майго героя. Міхась Гаўрылеўскі рэдка падымаецца з пасцелі. На 68-м годзе жыцця спасцiглі яго хваробы. Зараз хварэе запаленнем бядровых суставаў. Побач ложка стаяць дзве інвалідскія кульбакі. Але амбітны характар не дазваляе майму герою наракаць.

— Падлячуся, стану на ногі і зноў пачну гаспадарыць, дзейнічаць, — чую пра багатыя планы на будучыню. — Але пра гэта лепш не пісаць, – агаворваецца, каб не пашкодзіла чалавечая зайздрасць. — Лепш дапамажыце са стала прыбраць, — клапоціцца гаспадар. Бо апякунка, якую назначыла грамадская дапамога, якраз выйшла замуж.

У пакойчыку, адгароджаным ад аборы, лёгка ўзнікаюць фантастычныя аповеды. Як гэты пра „Герадаў”.

**Хацеў паяднання**

Каляднікаў пераапранутых за „Герадаў” Міхась Гаўрылеўскі сустрэў у Кракаве. Ведаў, што такі абрад ладзілі і яго продкі на Падляшшы. Сябры з Кракава дапамаглі адшукаць акцёраў для каляднага тэатра.

— Мне пашчасціла купіць танна касцюмы. Паспеў перад інфляцыяй. Найбольш клопатаў было са сцэнарыем, напісаным на кракаўскай гаворцы. А я хацеў паказаць сваіх „Герадаў” на беларускай літаратурнай мове.

У беларускім ліцэі, куды пайшоў шукаць перакладчыка, не мелі часу. Якраз быў гарачы час пабудовы новага будынка. Дырэктар нават здзівіўся незвычайнаму наведвальніку і адправіў, як кажа М. Гаўрылеўскі, да пані з Ломжынскага.

— Гэтая пані намовіла мяне не мяняць мову арыгінала. „Doda pan białoruskie kolędy i będzie ekumenicznie. Bo jak uczniowie zaczną tłumaczyć scenariusz, to tylko go zmarnują”. Пазней нашы людзі, — хвалюецца М. Гаўрылеўскі, — дакаралі мяне, што я распаўсюджваю тут польскія абрады. А я хацеў паяднання між католікамі і праваслаўнымі.

**Насупраць ветру**

— Я ўсё жыццё прайшоў арыгіналам. У жыцці любіў тое, што складанае, цяжкае. Вучыўся ў сельскагаспадарчых вышэйшых установах у Варшаве, Ольштыне, Вроцлаве, Кракаве. За ўвесь час сваёй вандроўкі па Польшчы я марыў пра дом у Трывежы. На бацькаўшчыне, сярод сваіх людзей. Каб свае веды практыкаваць на цывілізацыйна запозненай Беласточчыне. Калі працаваў аграномам або інструктарам на захадзе Польшчы, немцы мне гаварылі: „Panie, z taką wiedzą będziesz pan miliardy zarabiał!”

Мой герой жыў не толькі арыгіналам, але ўсё ішоў супраць ветру. У 70-я гады, калі беларусы не азіраючыся ўцякалі ў горад, ён прыязджаў з Вроцлава, а пазней з Кракава і Любліна, каб мадэрнізаваць бацькаўскую гаспадарку. Вёў жывёлагадоўлю, меў першую ў вёсцы ванную і... грошы. Наймаў таксама сялян са сваёй вёскі.

Але лёс насмешліва абышоўся з Міхасём Гаўрылеўскім. Яго гаспадарка спадабалася сям'і і пачалася валакіта па судах. У выніку змадэрнізаваная гаспадарка перайшла на сястру, краўчыху з Беластока.

— А я і так не здаўся, — хвалюецца М. Гаўрылеўскі. — Купіў сабе тут зямлю і пачаў ад пачатку, з нуля. У пяцьдзесят гадоў. Жыў у будынačку сярод цялят і ветру. І на пачатку васьмідзесятых перайшоў я жыць у абору, якую пры камуне сам будаваў для дзяржавы.

**Караля цалавалі жанчыны**

Чатыры гады хадзілі па Гайнаўшчыне „Герады” з Трывежы, прымалі іх таксама жыхары Нарвы, Гайнаўкі. Калядаванне пачыналася з каталіцкіх свят.

— Раз у Гайнаўцы сказалі на мяне: „То хіба Валэнса”, а ў ПГРы ў Беразове жанчыны цалавалі, — успамінае самыя прыемныя хвіліны мой субяседнік.

Міхась Гаўрылеўскі іграў ролю караля.

— Бо найдаўжэйшая была, — паясняе.

Разам з „каралём” хадзілі хлопцы з Трывежы, Новага Корніна, Веžанкі, Катоўкі. Аднойчы была і дзяўчына Аня. Аня Дзмітрук пераапранутая за „гетмана”. Часам „Герадам” спадарожнічалі незвычайныя прыгоды, як аднойчы ў Нарве.

Падпіты наравякa, пабачыўшы нетыповых каляднікаў, узбурыўся.

— A co to za wieśniaki tu lażą, — кінуўся да хлапчукоў і ўзнікла бойка, якая закончылася на пастарунку паліцыі.

Але і былі такія хвіліны, якіх не забудзеш да канца жыцця. У некаторых хатах садзілі „Герадаў” за стол, часам нараджалася каханне.

— Сам я займаўся цэласцю, — кажа Міхась Гаўрылеўскі. — У аборы ладзіў рэпетыцыі, сваім трактарам вазіў каляднікаў, займаўся гуртаваннем моладзі.

Ад 1996 года „Герады” ўжо не калядуюць. Іх паход спыніла хвароба лідэра.

— Лежачы ў пасцелі, чалавек безупынна думае і марыць. Як стану на ногі, пачну ладзіць сваіх „Герадаў” не толькі на польскай мове, але і пабеларуску, — моцна ў гэта верыць Міхась Гаўрылеўскі з Трывежы.

**Ганна Кандрацюк**

# Навагодні бандытызм

Сустрэча Новага года ў Бельску была гарачая. Каля 400 асоб сабраліся на плошчы перад ратушай і на развітанне са старым годам выстралілі з бутэлек шампанскага. А калі гэтыя бутэлькі апаражнілі, пачалі імі кідаць. На цэнтральнай у горадзе вуліцы Міцкевіча паляцелі шыбы ў некалькіх крамах. Здараліся крадзяжы. Жыхары горада і асабліва ўласнікі гэтых крамаў былі абураны на гарадскія ўлады і на паліцыю — за бяздзейнасць.

Паліцыянты даказваюць, што спрабавалі інтэрвеніраваць, але калі на тры іхнія машыны паляцелі бутэлькі, адступіліся.

— У горадзе было тады шэсць патруляў па дзве асобы і чатырох функцыянераў у цывільным, — кажа камендант Раённай камендатуры ў Бельску **Міхал Карпюк**. — Супраць такога натоўпу нічога яны не зрабілі б. Маглі яшчэ больш яго раз'юшыць і тады невядома, чым усё скончылася б. Я цешуся, што ніводнаму паліцыянту нічога не сталася.

— Выходзіць на тое, што мы вінаваты, бо асвятлілі ратушу і па-святочнаму ўпрыгожылі цэнтр, — гаворыць бурмістр **Андрэй Сцепанюк**, які выслухаў не адзін тэлефон ад абураных бяльшчан. — Калі б у цэнтры было цёмна, не было б дзе спаткацца і можа тады быў бы спакой. Я аднак скажу шчыра, што такога бydла не спадзяваўся.

Паліцыя ўстанаўляе прозвішчы найбольш агрэсіўных тае ночы. Першая дзесятка гэта маладыя людзі — ад 16 да 20 гадоў, — сярод якіх ёсць дзяўчына. І своеасаблівы рэкардсмен — хлопец, якога летась шэсць разоў звальнялі з папраўчага дому ў водпуск і кожны раз адвозіла яго туды паліцыя. У такіх выпадках паліцыянты адчуваюць сябе бяссільнымі. Кажуць, што застаецца ім чакаць, пакуль такі тып кагосьці заб'е. Толькі тады могуць яго „нейтралізаваць” згодна з законам.

**М. В.**

# Бельск у аркестры

Шосты ўжо раз у Польшчы іграў Вялікі аркестр святочнай дапамогі Юркі Оўсяка, які збірае грошы на медыцынскую апаратуру, шпіталі, хворых дзяцей і дарослых, адным словам, патрабуючых. Як і ў папярэдніх гадах, удзельнічала ў гэтай акцыі Беласточчына. Ваяводскі цэнтр усяго мерапрыемства знаходзіўся ў Беластоцкім тэлебачанні. Праходзілі там канцэрты, ішла справаздача з вулічнай зборкі грошай.

У Бельску вучні пачатковых і сярэдніх школ са скарбонкамі паявіліся на вуліцах ужо ў сем гадзін раніцы і збіралі грошы да змяркання. Зборка найлепш ішла пад цэрквамі і касцёламі. Наогул, больш ахвотна давалі ахвяры маладыя. Бывала, што старэйшыя ставіліся да ўдзельнікаў зборкі з падазрэннем, а ў адрас ініцыятара мерапрыемства выказвалі грубыя словы. Аднак сімпатыя і добразычлівасць перамагалі. Удзень у цэнтры горада амаль не было прахожых без чырвонага сэрцайка. Нават тыя, што гандлявалі на рыначку спіртам і цыгарэтамі, мелі яго на сваёй вопратцы.

Зборку аблягчала тое, што нядзеля 4 студзеня была ў Бельску гандлёвай. Перад праваслаўнымі Калядамі працавала большасць крамаў, на вуліцах было поўна народу, які рабіў апошнія перадсвяточныя пакупкі.

Увечары ў Бельскім доме культуры ладзілася дыскатэка, увесь даход з якой таксама пайшоў на Вялікі аркестр Оўсяка. У час дыскатэкі з мінікабарэ выступілі дзяўчаты з ліцэя Тарашкевіча і мясцовы гурт сучаснай музыкі *Dance*. А восьмай усе ўдзельнікі забавы запалілі перад домам культуры запалкі і запальнічкі ды мінуту пасылалі святло ў неба.

Да таго часу ў Агульнаадукацыйным ліцэі падлічылі вулічную зборку. У скарбонках было: 6503,39 злотаў, 4 амерыканскія і 1 канадскі долар, 1 бельгійскі франк, тысяча італьянскіх лiраў і 40 тысяч беларускіх рублёў, залаты пярсцёнак і пара залатых завушніц. Бельскі дом культуры на білетах зарабіў 500 злотаў, а ў скарбонцы апынулася каля 100 злотаў, 10 амерыканскіх долараў і залаты гадзіннік.

Бельск папэўна ўнёс большы ўклад у дабрачынную акцыю, паколькі былі людзі, якія збіралі ахвяраванні самастойна і самі іх пасылалі на рахунак Вялікага аркестра святочнай дапамогі.

**(ак)**

# Зашуміць дубовы гай

Хіба кожны, хто наведаў некалі Белавежу, звярнуў увагу на групу старых дубоў, што растуць у Палацовым парку, побач гасцініцы „Іва” і прыродазнаўчага музея. На жаль, іх штораз менш. Яшчэ ў 20-я гады рос тут 21 дуб, зараз іх толькі 15 — ва ўзросце 250—400 гадоў. Апошнія два з шасці „адышоўшых” дрэвавых старажылаў зніклі з краявіду ў 1988 і 1994 гадах. Першы ўсох і быў зрэзаны рэстаўратарамі прыроды, другі зламаўся падчас даволі моцнай веснавой навальніцы. Найслабейшым зараз экзэмплярам лічыцца дуб, на якім у 1991 г. паявілася выява людской галавы, аб чым было ў той час даволі шумна („Ніва” таксама пісала аб гэтым дзіўным здарэнні).

Баючыся, што праз нядоўгі час група ўспомненых дубоў яшчэ больш прарэдзіцца, двое маладых навукоўцаў — Анджэй Кэчынскі з Белавежскага нацыянальнага парку і Войцех Адамоўскі з Белавежскай геабатанічнай станцыі Варшаўскага універсітэта пастанавілі даць шанц вырасці маладым пасеяным дубкам. Вось, улетку 1997 г. яны выдзялілі і тымчасова вызначылі 33 кватэры, дзякуючы чаму малыя дрэўцы не былі скошаны і выраслі (нармальна траву вакол дубоў косяць). Там, дзе было іх няшмат або і зусім не было, дасадзілі дрэўцаў, якія раней выгадавалі з жалудоў ад гэтых жа старых дубоў. У лістападзе і снежні кватэры былі абгароджаны невысокімі плоцікамі. Траву паміж імі будуць адгэтуль касіць уручную.

Абодва навукоўцы будуць весці пастаянны нагляд за маладымі дубамі — прарэзваць іх, выкідаць самасеі іншых відаў дрэў. Так, што неўзабаве зашуміць тут маладая дуброва.

**Пётр Байко**

# Пасляваенны сталінізм на Беларусі

Беларусь у час II сусветнай вайны пацярпела найбольш з усіх еўрапейскіх краін . Але ў 1945 г. не закончыліся пакуты беларускага народа. З вайны вярталіся салдаты з пачуццём добра выкананай місіі. Паўсюдным было чаканне зменаў на лепшае, ліквідацыі калгасаў, абмежавання рэпрэсіўнасці органаў дзяржбяспекі. З воклічам „За Сталина, за родину" паміралі сотні тысяч беларускіх салдат і партызан. Але яны таксама прайшлі амаль усю Еўропу і пабачылі, як жыў аўстрыйскі, чэшскі ці нямецкі селянін, які не спазнаў калектывізацыйнага шаленства. Зменаў чакала таксама частка партыйна-адміністрацыйнай наменклатуры. Выхаваныя ў радах Саюза беларускай моладзі ліцэісты і студэнты пачалі гуляць у канспірацыю.

Бальшавікі не маглі дапусціць да эрозіі сістэмы ды прывярнулі некаторыя элементы палітычнай практыкі трыццатых гадоў. Яны традыцыйна лічылі, што найбольш небяспечнай для камунізму — свабодная думка. Таму пад спецыяльным наглядам нанава апынулася беларуская інтэлігенцыя. З 238 арыштаваных падчас сталінскай дыктатуры беларускіх літаратараў толькі дваццаці ўдалося астацца ў жывых. Пасляваенная камуністычная ідэалогія была вельмі дагматычнай, таму кожная інтэлектуальная творчасць успрымалася як патэнцыяльнае злачынства. У 1947 г. Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі вызначыў бальшавіцкія прынцыпы літаратурнай крытыкі. Творчасць шматлікіх пісьменнікаў і паэтаў па самай дэфініцыі стала тады буржуазна-нацыяналістычнай. У 1949 г. новая хваля беларускіх літаратараў папоўніла савецкія канцлагеры. Канстанцыя Буйло была абвінавачана ў нацыяналізме за тое, што ў вершы напісала „Беларусь — найпрыгажэйшы куток на зямлі". Пісьменнікам і паэтам партыя загадала пісаць пра вайну, праслаўляць Савецкую Армію і яе галоўнакамадуючага генералісімуса Сталіна. Дазвалялася таксама пісаць пра рамантыку сацыялістычнага будаўніцтва.

У 1947 г. па ініцыятыве Цэнтральнага Камітэта КПБ пачаўся працэс пошуку прыхільнікаў „імперыялізму" сярод супрацоўнікаў навуковых устаноў. Першай ахвярай стаў прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі Антон Жэбрак. У 1945 г. апублікаваў ён у амерыканскім часопісе „Навука" артыкул *Савецкая біялогія*, у якім даказваў, што не ўсе савецкія біёлагі думаюць аднолькава як славуты прафан навукі Лысенка. Жэбрака вызвалілі ад пасады прэзідэнта Акадэміі навук, ліквідавалі Інстытут біялогіі, а ўсіх яго супрацоўнікаў пазбавілі працы. Падчас спецыяльна арганізаваных сходаў Жэбракавы калегі па прафесіі вымушаны былі праводзіць крытыку не толькі яго навуковай кампетэнтнасці, але таксама ставіць пад сумненне яго маральнасць. Кожны, хто быў у нечым абвінавачаны, спачатку пазнаваў, што абазначае „гнеў люду".

У 1947 г. пачалося друкаванне твораў Сталіна на беларускай мове. Гэтая літаратура мела як бы стаць паказчыкам разумення гістарычных, грамадскіх, моўных, палітычных, культурных працэсаў для ўсіх, якія займаліся інтэлектуальнай творчасцю. Мільённым тыражом паказалася таксама *Кароткая біяграфія Сталіна*. У 1949 г. у Беларусі іспавала 7 250 гурткоў вывучэння біяграфіі Іосіфа Вісарыёнавіча. З нагоды яго 70 гадавіны з дня нараджэння адбылося ў Беларусі 30 тысяч мітынгаў з удзелам 3 млн. „удзячных беларусаў". Найбольш таленавітыя паэты, пісьменнікі і мастакі думалі, што напісаць ці намаляваць, каб задаволіць служыцеляў культу бальшавіцкага правадыра. Тыя, якім гэта ўдалося, атрымлівалі „Сталінскія прэміі".

Пасляваенны перыяд — гэта таксама час інтэнсіўнай русіфікацыі Беларусі. Настаўнікі, урадпікі, журналісты, юрысты, акцёры, якія выконвалі сваю прафесію падчас нямецкай акупацыі, былі вывезены з Беларусі. У большасці былі гэта жыхары гарадоў, грамадская эліта. Заступілі іх людзі прывезеныя з Расіі.

Перш за ўсё наступіла русіфікацыя партыйна-дзяржаўнага апарату. У школьным годзе 1945/1946 у Мінску яшчэ звыш 50 працэнтаў школ працавала на беларускай мове, а ў 1952/1953 годзе асталося іх толькі 18 працэнтаў. Падобная сітуацыя была ва ўсіх абласных гарадах. Найбольшым ворагам прысутнасці беларускай мовы ў школах на тэрыторыі Беларусі быў Цэнтральны Камітэт КПБ. У 1952 г. выдаў ён пастанову „Аб ходзе выкладання расійскай і беларускай моў у школах БССР у святле вывучэння таварыша Сталіна па мовазнаўстве", якая на практыцы абазначала ў недалёкай будучыні спыненне навучання беларусаў роднай мове. Тым не менш моладзь з вёсак, якая трапляла ў гарады за навукай, адукавалася на чужой мове і ў чужой культуры. Вырастала беларуская інтэлігенцыя, якая, аднак, шчыра не любіла беларускасці.

**Яўген Міраповіч**

# Заява Рады ЗБС „Бацькаўшчына"

## *ў сувязі з узнаўленнем вобраза Крыжа святой Еўфрасінні Полацкай*

**(фрагменты)**

Вяртанне Беларусі яе нацыянальных скарбаў з'яўляецца адным з галоўных накірункаў дзейнасці Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына". Асаблівае месца ў гэтай працы займае клопат пра лёс створанага ў 1161 годзе полацкім майстрам Лазарам Богшам Крыжа святой Еўфрасінні — старажытнага сімвала святасці і дзяржаўнасці нашай зямлі, страчанага ў гады другой сусветнай вайны. Відавочна, што страта Крыжа — гэта не матэрыяльная згуба. Крыж пайшоў ад нас таму, што мы адышлі ад Боскіх запаветаў, ад святых абавязкаў захоўваць свой род, сваю краіну, яе культуру і мову — усё тое, што дадзена нам Усявышнім.

У часе новага беларускага Адраджэння пачаўся наш шлях вяртання да святыняў. З Божай ласкі і дзякуючы згаданню лепшых сыноў Беларусі наш народ стаў абуджацца ад гістарычнага бяспамяцтва. Менавіта тады і ўзнікла ідэя ўзнаўлення вобраза гістарычнай рэліквіі — Крыжа Еўфрасінні. У снежні 1992 года на Першым сходзе беларусаў блізкага замежжа была падтрымана прапанова аб сімвалічным вяртанні святыні і стварэнні Крыжа па вобразу і падабенству Жыватворнага Крыжа Еўфрасінні. Арганізатарам Сходу была грамадская арганізацыя — Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына". Менавіта „Бацькаўшчына" і ўзяла на сябе высакародны і няпросты абавязак выканаць волю беларускай грамады. (...)

Выкананне гэтага надзвычай адказнага і складанага заказу „Бацькаўшчына" даручыла вядомаму беларускаму мастаку-ювеліру Міколу Кузьмічу. Распачатая праца атрымала благаславенне мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, патрыяршага экзарха ўсяе Беларусі Філарэта. (...)

Рада Згуртавання беларусаў свету выказвае сардэчную падзяку Беларускай праваслаўнай Царкве і мітрапаліту Філарэту, усім, хто спрыяў адраджэнню вобраза Крыжа і вяртанню яго на месца, вызначанае некалі для святыні самой найпадобнейшай Еўфрасінняю. Адраджэнне святыні было адной з важнейшых праграмаў дзейнасці ЗБС „Бацькаўшчына". (...)

Усе мы, каго аб'ядпала ідэя адраджэння вобраза святыні, будзем і надалей выкарыстоўваць свой навуковы, творчы і інтэлектуальны патэнцыял, працуючы ў Згуртаванні беларусаў свету „Бацькаўшчына" і ў створаным у верасні 1997 года Міжнародным дабрачынным фондзе Жыватворнага Крыжа святой Еўфрасінні Полацкай, галоўнай мэтай якога з'яўляецца спрыянне адраджэнню духоўнасці і нацыянальнай культуры, як падмурка станаўлення сучаснай беларускай дзяржаўнасці, на падставе духоўных каштоўнасцяў, закладзеных найпадобнейшай Еўфрасінняю ў ідэю Крыжа — духоўнага і аб'ядпаўчага сімвала народа.

Заклікаем далучыцца да нашай працы беларусаў з Бацькаўшчыны і з замежжа.

Дзеля больш глыбокага шанавання імя Еўфрасінні і яе Крыжа Рада ЗБС звяртаецца да Урада краіны з прапановаю надаць Дню памяці нябеснай заступніцы Беларусі святой Еўфрасінні Полацкай (5 чэрвеня новага стылю) статус агульнадзяржаўнага свята.

Верым, што адроджаны Крыж будзе ўмацоўваць нашу веру, уваскрашаць памяць, яднаць нацыю і дапаможа нам пабудаваць свабодны і заможны Беларускі Дом.

*Прынята на Пасяджэнні Рады ЗБС „Бацькаўшчына" 5.12.1997 г.*

# Нашы карані

**CXIII. Непагасная лампада**

Падчас вайны з казакамі, з Маскоўскай дзяржавай, шведскім „патопам" і зноў з маскоўскімі войскамі ў гадах 1648-1667, калі ішло змаганне за тое, быць ці не быць Рэчы Паспалітай на карце Еўропы, кароль і ягоны ўрад, хоць і вельмі неахвотна, але ўсё ж абяцалі роўнапраўе ўсім хрысціянам і нават забавязвалі католікаў і уніятаў вярнуць праваслаўным адабраныя ім цэрквы і царкоўную маёмасць. Але калі вайна суцішылася, усе гэтыя гарантыі і абавязацельствы касаваліся і забываліся. Наставала яшчэ больш цяжкае, нічым не паўстрыманае праследаванне вызнаўцаў некаталіцкіх веравызнанняў, нават выгнанне іх з уласнай бацькаўшчыны, з Рэчы Паспалітай, як, напрыклад, „польскіх братоў", арыянаў. Гэтага ўціску людзі не вытрымлівалі, асабліва вышэйшыя слаі грамадства, і ўсё болей і болей беларускай і украінскай шляхты, магнатаў пераходзіла ў каталіцызм, а залежных ад сябе простых людзей — паншчынных сялян, чэлядзь, работнікаў — заганялі ў „халопскую" уніяцкую царкву. Каталіцызм успрымаўся як панская, польская вера, і каталікі пачалі лічыць сябе палякамі. Гэтак адначасова з адыходам ад праваслаўя людзі, і ў першую чаргу магнаты і шляхта, пакідалі таксама і сваю родную мову, культуру, традыцыю.

Гэта смяротная хвароба апанавала таксама і праваслаўнае духавенства, асабліва вышэйшую іерархію. Адны з епіскапаў, як, напрыклад, уладыка луцкі Гедэон Чэцвярцінскі, уцякалі ў Маскоўскую дзяржаву, другія спачатку патаемна, а потым і яўна пераходзілі ва унію, як гэта зрабілі мітрапаліт кіеўскі Іосіф Шумлянскі ці епіскап пярэмышльскі Інакенцій Вінніцкі або епіскап луцкі Дзіянісій Жабакрыцкі. Варта заўважыць, што Жабакрыцкі быў апошнім праваслаўным епіскапам-здраднікам, які перайшоў ва унію. З тымі, хто не ішоў такім шляхам здрады сваё веры, урад жорстка распраўляўся, вось як хоць бы з верным праваслаўю мітрапалітам Іосіфам Тукальскім, якога гетман Чарнецкі схапіў і без суда ўкінуў у 1664 годзе ў лёхі Мальборскай крэпасці. А калі пасля двух гадоў гэтага страшэннага зняволення мітрапаліта вызвалілі, то ўсё роўна да яго адносіліся варожа, і ён вымушаны быў да самай свае смерці хавацца пад апекай казакаў.

Што адбывалася ў іншых рэгіёнах Рэчы Паспалітай, тое ж дзеялася тады і на нашым Падляшшы. Тутэйшыя праваслаўныя прыходы належалі да дзвюх епархій: луцкай і мітраполічай кіеўскай. Далёка было да ўладаў, але яшчэ далей да справядлівасці. Фактычнымі духовымі кіраўнікамі праваслаўных падляшукоў былі ігумены манастыроў у Бельску, Драгічыне, Заблудаве, Яблачыне, бо ў гэтых абіцелях засяроджвалася ўсё тадышняе праваслаўнае духовае жыццё. А яго з усіх сіл намагаліся затаптаць, знішчожыць, зрабіць нелегальным, загнаць у падполле. Кароль Ян III Сабескі спецыяльным дэкрэтам забараніў праваслаўнай грамадскасці адкрыта праяўляць сваю веру, духавенству публічна правіць набажэнствы, а ўсім забараніў дамагацца звароту забранай царкоўнай і манастырскай маёмасці. Гэтаму дэкрэту не падпарадкаваліся бельскае праваслаўнае духавенства і Мікалаеўскі манастыр. Маючы падтрымку ў моцным Мікалаеўскім брацтве, манаская брація і свяшчэннікі адкрыта служылі ўсе набажэнствы, хадзілі з хрэсным ходам па горадзе, далучалі людзей да святых таінстваў і разам са свецкім брацкім актывам адбівалі ўсе атакі, часта на вуліцы, пад сценамі манастыра, а нават у царкве. За імі ішлі следам духавенства, брація Спаскага і Троіцкага манастыроў і Мікалаеўскае брацтва ў Драгічыне. Не адставала ад іх духавенства і манахі Успенскага манастыра ў Заблудаве і адлеглага, маленькага, але трывалага манастыра ў Яблачыне. Гэта было змаганне за выжыванне. І дзякуючы ім лампаду праваслаўнай веры на Падляшшы не ўдалося затушыць яе ворагам.

**Мікола Гайдук**

# Арлянскія скаўты

**Ужо трэці год пры Пачатковай школе ў Орлі працуе 78 Гарцэрская дружына імя Уладзіслава Бранеўскага. Скаўцкай арганізацыяй кіруе Пётр ФАРМАНОЎСКІ — настаўнік гісторыі.**

— Наша служба Богу, Польшчы і бліжнім, — гаворыць дружыновы Фарманоўскі, — атрымоўваецца ў нас вельмі добра. Дзеці ахвотна ўключаюцца ў скаўцкую дзейнасць. Гарцэры перш за ўсё ладзяць гістарычна-патрыятычныя мерапрыемствы ды ўдзельнічаюць у акцыях, арганізаваных Камендатурай гуфца ў Бельску-Падляшскім. У верасні былі мы на адкрыцці помніка паўстанцам 1863 года ў Андрыянках, а ў кастрычніку прымалі ўдзел у абучэнні юных кіраўнікоў атрадаў і дружынаў у Кляшчэлях. Нашу дзейнасць падтрымоўваюць мясцовыя спонсары. Напрыклад, фірмы Orlas, Ormax і SKR успамаглі нашу акцыю летняга адпачынку.

У гэтым годзе нашы гарцэры завявалі тры медалі і дзевяць дыпломаў у спаборніцтве ў стральбе на 50 метраў. Варта адзначыць, што змагаліся восемдзесят скаўтаў з дзесяці школ, але нашы стралкі аказаліся найлепшымі і як каманда ўзялі мы першае месца. Многія мяне пыталі, дзе я трэнірую юных стралкоў. Папраўдзе, мы нідзе не трэніраваліся. Самародныя таленты арлянскіх дзяцей выявіліся ў натуральны спосаб. Другі раз бронзавы медаль (раней залаты) заваявала вучаніца VIII класа Малгося Амельянюк. Сярод медалістаў трэба яшчэ вылучыць васьмікласніка Марціна Палаванёка з Міклашоў (залаты медаль) і сямікласніка Адама Назарэвіча з Орлі (сярэбраны медаль).

Самі гарцэры таксама праяўляюць ініцыятыву ды супрацоўнічаюць з іншымі дружынамі. У лістападзе, з нагоды „Анджэйкаў", адбылася вечарына з варажбамі і дыскатэкай — ладзілася яна супольна з сябрамі з 58 дружыны імя Тадэуша Касцюшкі з Кляшчэляў.

Ужо два гады кірую 79 гарцэрскай дружынай імя Станіслава Міроўскага ў Крывой. Заняткі вяду перад урокамі (ад $8^{15}$ да $8^{45}$). Не ўсе скаўты маюць гарцэрскую форму, якая дорага каштуе, а і магазін са скаўцкім абмундзіраваннем знаходзіцца ажно ў Варшаве. Толькі двое тамашніх гарцэраў — Тамаш Уткін і Андрэй Раманюк — ганарацца камплектнай скаўцкай уніформай.

У акцыі дапамогі пацярпелым ад паводкі гарцэры сабралі 530 зл. і за гэта атрымалі віншавальны ліст, а я — памятную адзнаку.

Я працую настаўнікам гісторыі (урокаў гісторыі замала для поўнага штату) і вяду заняткі ў школьнай святліцы. У Орлі працую ад 1980 года, а з 1995 г. вяду гарцэрскую і зухавую дружыны. Гэтую апошнюю аднавіла школьная медсястра Анна Копа. Пад маёй апекай знаходзяцца 20 зухаў і 60 гарцэраў. Маё гарцэрскае званне — праваднік. Ранейшае гарцэрства дзейнічала ў школе па прынцыпе загаду зверху. Цяпер дружынам ніхто не дае загадаў, а праграму дзеяння распрацоўваем самі. Што мяне схіляе да грамадскай працы? Мабыць тое, што інакш гляджу на школьную моладзь, што бачу ў іх не аб'ект, у які трэба ўціснуць адпаведную порцыю энцыклапедычных ведаў, але імкнуся ставіцца да іх як да суб'екта. Гэта вынікае з прынцыпаў сучаснага скаўтынгу.

* * *

Расказваюць Аляксандра Рангайла, Моніка Сахарэвіч і Барбара Савіцкая — гарцэркі, сямікласніцы з Орлі:

— У гарцэрскай дружыне працуецца нам вельмі добра. Любім і шануем нашага дружыновага Пятра Фарманоўскага. Мы яму падказваем, што мы хочам рабіць. Гэта па нашай ініцыятыве былі запрошаны сябры з Кляшчэляў. З гарцэрамі з Крывой мы ўжо знаёмыя, бо два гады таму мы яшчэ разам вучыліся. Большасць з нас мае ўжо свае мундзіры. Падчас зімніх канікул будзем арганізаваць адпачынак. Бацькі адабраюць нашу дзейнасць у гарцэрскай дружыне. А мы заахвочваем сваіх сяброў і сябровак стаць гарцэрамі.

* * *

Бачачы радасць скаўтаў і плён іхняй дзейнасці, а таксама задаволенасць бацькоў, можна толькі павіншаваць спадара Пятра Фарманоўскага з дасягненнямі на скаўцкай ніве. Аж дзіў бярэ, што ён — інвалід, сумее выкрасаць з сябе столькі жыццярадаснай энергіі ды зарадзіць ёю школьную моладзь. Так павінны весці сябе ўсе апекуны дружын. Чувай!

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*



*Арлянскія скаўты са сваім дружыновым Пётрам Фарманоўскім (у глыбіні, у цёмнай форме).*

# Лепшыя і горшыя ветэраны

Нядаўна пачуў я па радыё выказванні былога міністра па справах ветэранаў, які расказваў пра змаганне паміж рознымі ветэранскімі арганізацыямі — як адны адных хочуць пазбавіць гэтага звання.

Мне здаецца, што гэта заўзятая палітычная барацьба і што тыя ветэраны самі не ведаюць, чаго хочуць. У чым вінаваты паляк, які апынуўся ў Савецкім Саюзе і не па сваёй волі ўступіў там у 1 Армію Польскага Войска імя Т. Касцюшкі і ад Леніна пачаў змагарны шлях за вызваленне нашай зямлі ад нямецкіх захопнікаў. Некаторыя неўзабаве загінулі, а некаторым удалося дайсці аж у Берлін. Яны ж такія самыя людзі як жаўнеры Андэрса, якія пакінулі Савецкі Саюз і на Захадзе ваявалі за вызваленне Айчыны. Ва ўсіх жаўнераў чырвоная кроў. У чым вінаваты той чалавек, які быў забраны на прымусовую працу ў Нямеччыну, а пасля асвабаджэння яго, як беларуса, прызвалі ў Чырвоную Армію, а часта накіравалі ў штрафную роту і паслалі на фронт. У чым вінаваты той чалавек, які ў 1939 ці 1940 годзе, калі нас акупіраваў Савецкі Саюз, быў прызваны ў Чырвоную Армію? Ён жа ўсю II сусветную вайну праліваў сваю кроў за свабоду. Ці цяпер можна ім забраць званне ветэрана? Ці цяпер ветэранамі могуць быць толькі члены АК, якія забівалі жаўнераў, міліцыянераў, членаў партыі, што падтрымлівалі і баранілі народную ўладу? Сем'і многіх ахвяр па сённяшні дзень не могуць знайсці магіл сваіх бацькоў ці братоў. Няхай бы цяпер тыя акаўцы паказалі магілы, каб хоць раз святар мог памаліцца над імі ды пасвяціць зямлю, у якой пакояцца іх астанкі!

Што было б цяпер у нас, калі б не Чырвоная Армія? Да гэтай пары гітлераўцы зрабілі б з нас рабоў.

Трэба над гэтым сур'ёзна задумацца ўсім ветэранам ды перастаць падстаўляць адзін аднаму нагу.

**Мікалай Лук'янюк**

# Мова дзяцей і моладзі ў беларускіх сем'ях

— Чалавека, які кажа, што ён беларус, а гаворыць толькі па-польску, можна параўнаць з веруючым, але не практыкуючым хрысціянінам, — заяўляе Тамаш Саевіч, гайнаўскі ліцэіст.

Пасля размоў у вёсках вырашыў я пагаварыць пра беларускую мову ў Гайнаўцы. Спаткаўся з вучнямі Беларускага ліцэя, каб даведацца пра мову ў іх сем'ях. Цікавілі мяне таксама погляды ліцэістаў наконт значэння беларускай літаратурнай і дыялектнай моў у фарміраванні нацыянальнай свядомасці беларусаў. Размовы правёў я з удзельнікамі Клуба польска-беларускіх спраў, у якім неадночы закраналіся пытанні мовы і свядомасці.

— Калі ў прадшколлі выхавацелькі прасілі мяне, каб я вывучыла вершык „Kto ty jesteś? — Polak mały" — я адмовілася. У хаце мяне вучылі, што я не палячка, — успамінае з усмешкай Эдыта Чапко, ліцэістка IV класа. — Да прадшколля я жыла з дзедам і бабуляй на вёсцы. Калі ў прадшколлі пачала я гаварыць на дыялекце, сябры мяне не разумелі. Цяпер больш ахвотна размаўляю на беларускай літаратурнай мове.

Цікавіць мяне мова сямейная, гутаркі з бацькамі і іншымі членамі сям'і.

— Паміж сабой бацькі найчасцей размаўляюць на дыялекце. Са мною і братам часта гавораць па-польску, — кажа Эдыта. — Мой брат, дык увогуле не размаўляе па-беларуску. Калі я пераконвала яго, што ён беларус, дык адказаў: "Ty mi nie wciskaj kitu, że jestem Białorusinem".

— У маім доме мова залежыць ад гасцей, якія нас наведваюць, — уключаецца ў размову Томэк Саевіч, аднакласнік Эдыты. — Калі прыходзяць госці з вёскі, мы ўсе размаўляем на дыялекце, калі мяне наведваюць сябры, часта размаўляем на беларускай літаратурнай мове. Але ў Гайнаўцы моладзь і дзеці найчасцей гавораць у сем'ях толькі па-польску. Дыялектная мова — рэдкасць.

— Нават у маёй вёсцы дзеці і моладзь найчасцей гавораць па-польску, — сцвярджае Ірэна Кулік, першакласніца з Тафілаўцаў. — У нашым класе большасць вучняў з вёсак, але размаўляюць яны найчасцей па-польску. Можа таму, што яшчэ слаба ведаюць адзін аднаго.

— У нашым класе раней увогуле не хацелі размаўляць па-беларуску, — кажа Томэк. — Цяпер аднак не толькі размаўляем, але і беларускія песні спяваем. Можна сказаць, што быў маральны заняпад.

— Калі я была ў другім класе, адна з сябровак звярнула мне ўвагу, каб я не размаўляла па-беларуску, бо мы жывем у Польшчы, — успамінае Эдыта. — Ёсць і такія вучні з вёсак, якія перасталі гаварыць на дыялекце, а пачалі па-польску.

— На калідорах гучыць, перад усім, польская мова. Дыялектам зрэдку карыстаюцца вяскоўцы, — гаворыць пра свае назіранні Томэк. — На маю думку, мы не маем уплыву на выміранне дыялектнай мовы. Адміраюць вёскі, а ў гарадскіх сем'ях гутарковая мова — рэдкасць.

— Для фарміравання беларускай нацыянальнай свядомасці родная мова вельмі важная, — сцвярджае Эдыта. — Напэўна лепш ведаць літаратурную мову, але для адчування сябе сапраўдным беларусам хопіць і дыялектнай. Ну, вядома, патрэбная яшчэ свая гісторыя і культура.

Выказванні ліцэістаў наконт роднай беларускай мовы шчырыя і эмацыянальныя. Яны не падмацаваныя навуковай літаратурай — больш абапіраюцца на іх асабістых назіраннях. Можна дыскутаваць з вучнямі пра значэнне мовы ў фарміраванні нацыянальнай свядомасці, звяртаючы ўвагу на гісторыю народа і іншыя фактары. Аднак, калі разважанні тычацца моладзі, якая не вучыцца беларускай літаратурнай мове, а пра гісторыю Беларусі чытала толькі ў польскіх падручніках, значэнне беларускай гутарковай мовы непамерна ўзрастае. Можа яна стаць адзінай дарогай да роздуму над сваім паходжаннем, традыцыяй бацькаўскага дому, а пасля гісторыяй свайго народа ды можа выдатна прычыніцца да фарміравання нацыянальнай свядомасці. Размовы з моладдзю паказалі, што беларускай дыялектнай мовай ахвотна карыстаюцца ў Гайнаўскай і Чыжоўскай гмінах, менш у Дубіцкай, а ў ваколіцах Нараўкі — маладыя амаль увогуле не гавораць на дыялекце. У гарадах, з некаторымі выключэннямі, праходзіць поўная моўная паланізацыя моладзі. Каб больш дакладна паказаць месцы, дзе гутарковая беларуская мова жыве яшчэ сярод моладзі, спатрэбіліся б дакладныя даследаванні. Мае суразмоўцы толькі пацвердзілі вядомую прычыну паланізацыі — малую нацыянальную свядомасць старэйшага пакалення беларусаў, для якога мова — не фактар свядомасці, але сямейная традыцыя. На жаль, можам толькі запавольваць гэты працэс, але стрымаць яго мы не ў змозе.

**Аляксей Мароз**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Сараканожка

Раз адна сараканожка
Прастудзіла свае ножкі:
Ходзяць ножкі па балоце,
А на кожнай ножцы — боцік,
З бота — пальчык вызірае:
Кожны боцік пазяхае!..
Колькі майстру грошай даць?
Цвічкі ў падэшвы паўбіваць,
Дзір заклеіць сорак пяць,
Сорак „жабак” ўбіць у пяткі,
На наскі — моцныя латкі...
На кожную ножку —
доўгую панчошку.
Цяпер цёпла кожнай ножцы, —
Весела сараканожцы!

**Міра Лукша**



*Дэкламатаркі і футбаліст з IV „ц” класа бельскай „тройкі”.* Фота Г. КАНДРАЦЮК

## Вершы Віктара Шведа

### „Пяцёрка” Рыгоркі

Запытала матка:
— Як было на занятках?
Адказаў Рыгорка:
— Атрымаў пяцёрку:

Двойку з геаграфіі,
Двойку з арфаграфіі,
І на перапынку
З гісторыі адзінку,

### Чым займаецца бацька?

Запыталі ў школе Вацка:
— Чым займаецца твой бацька?
— Мой бацька ад лета
Збірае манеты.

— Відаць, ён цяпер
Калекцыянер?
— Папраўдзе аднак
Мой тата — жабрак...

# Літаратурны конкурс „Зоркі”

## (н-р 1)

Напішыце характарыстыку свайго любімага літаратурнага героя. Ваш герой не абавязкова мусіць быць персанажам з беларускай літаратуры. Вы можаце пакарыстацца сваім улюбёным творам сусветнай літаратуры. Аўтары самых цікавых допісаў стануць удзельнікамі Сустрэч „Зоркі”.

**Адказ на літаратурны конкурс н-р 8**

1. Беларускі пісьменнік **Пятрусь Глебка** неаднаразова ўдзельнічаў у рабоце Генеральнай асамблеі Арганізацыі Аб’яднаных Нацый.

2. На вуліцах Мінска можна было сустрэць пісьменніка Уладзіміра Караткевіча разам з мядзведзем. Гэты звер быў верным сябрам літаратара і паслухмяна выконваў яго загады.

3. Аўтарам верша пра Бельск
„ікона
лістападаўскі снег
блакітны ранак”
з’яўляецца Надзея Артымовіч, паэтка з Бельска-Падляшскага.

4. Малітву „Магутны Божа” напісала Наталля Арсеннева.

Кніжку „Песні Беласточчыны” выйграла **Аля Масайла** з Бельска-Падляшскага.

Станіслаў Валодзька

## Сом

Вось прысніўся саму
Дзіўны сон:
Падарылі яму
Парасон.

Сом глядзеў —
Акуляры надзеў:
Эх, шкада,
Што ў вадзе
Дождж не йдзе!

# Францыск Скарына

## *альбо Як да нас прыйшла кніга*

*(пачатак у 47 нумары за 1997 год)*

**Пергамен (2)**

Спачатку і на пергамене пісалі, як на папірусе, трысняговаю ці драўлянаю палачкаю. Але неўзабаве і тут прыйшлі змены. Пачалі пісаць больш зручнымі птушынымі пёрамі.

Вы, пэўна, ведаеце, што ў даўніну людзі пісалі гусіным пяром. Але не ведаеце, пэўна, што толькі шэсць, ад сілы дзесяць пёраў з усяе гусі былі прыдатныя для пісьма. І вырывалі іх у жывых птушак. Прытым з левага крыла: іх выгін найбольш адпавядаў, каб пісаць праваю рукой.

Праўда, пісалі яшчэ і іншымі пёрамі — крумкачынымі, ястрабінымі, качынымі і нават лебядзінымі. А некаторыя лічылі, што сама лепш пісаць цецеруковымі. Але найбольш пашыраныя былі гусіныя — з-за іх гнуткасці і трываласці. І не ў апошнюю чаргу таму, што гэтыя пісьмовыя прылады разгульвалі па двары.

Мажліва, нездарма гусь такая важная і задзірлівая. І калі яна ўтне цябе за нагу, не вельмі крыўдуй — успомні яе заслугі і ўступі ёй дарогу...

Пёры спярша клалі ў нагрэты пясок або попел, каб такім чынам зняць тонкую тлустую плеўку, інакш бы чарніла не трымалася на іх. Пасля пёры апускалі ў галуновы або кіслотны раствор. Тады яны набывалі цвёрдасць, як быццам іх зрабілі з сённяшняй пластмасы. Цяпер ужо заставалася толькі завастрыць іх — і можна было пісаць.

Але вось гэта якраз і вымагала найбольшага ўмельства. Былі нават майстры завострываць пёры. Яны мелі тры спецыяльныя ножыкі — у поўным сэнсе слова — перачынныя. Адным вырэзвалі паўкруг, другім тонка завострывалі кончык пяра, трэцім — пяро расшчаплялі і падрэзвалі з бакоў так, каб чарніла, набраўшыся на пяро, пасля роўна „падавалася” ўніз.

Цяпер, калі пяро ўжо гатовае, можна зрабіць на паперы некалькі кругоў. Пасля завастрэння заўсёды быў такі звычай — „проба пяра”.

Так, так, вы правільна здагадаліся, адкуль узяўся гэты выраз „проба пяра” — ім называюць першыя творы пісьменнікаў — часта яшчэ недасканалыя, калі аўтары як бы спрабуюць свае мажлівасці.

Гусіным пяром трэба было ўмець пісаць. Бо калі зрабіць крыху больш прыціск, „лапкі” яго распаўзаліся. Выводзячы лініі знізу ўгару ці злева направа, вечна бойся чарнільных пырскаў. Ды і матэрыял, на якім пісалі, павінен быць гладкі, не шурпаты.

Служыла ж пяро не доўгі час. А там яго зноў трэба было падвострываць або паварочваць набок, а то і зусім пераварочваць верхнім бокам падспод — чаго толькі не ўхітраўся зрабіць перапісчык, каб падоўжыць ягоны век.

А каб пакідала пяро выразны след, пісаць ім трэба было не асабліва хутка, бо чарніла не паспявала б сцячы з пяра.

***(працяг будзе)***

**Анатоль Клышка**



*Гагатуха на Падляшшы.* Малюнак Юліты МАКСІМЧУК з Трасцянкі

# Міфы старой Беларусі

**16. Жыж**

Беларусы верылі ў бога агню — Жыжа.

Яшчэ па сённяшні дзень можна сустрэць у дыялектнай мове прыметнік *жэшкі*, што абазначае прыблізна *гарачы, вогненны*. Існуе яшчэ слова *жышка*, якое значыць пякучы прышч на губах, дарэчы, часта называны *вогнікам*.

Культ бога агню найбольш славілі старажытныя яцвягі. Гэты бог найчасцей выступае ў іх як Зніч.

Бог агню Жыж, верылі беларусы, ходзіць па зямлі і час ад часу выпускае з сябе агонь. Калі ў яго паходка ціхая, павольная, тады саграваецца зямля. Калі Жыж шпарка ідзе, тады ўзнікаюць пажары. У такі менавіта спосаб нашы продкі тлумачылі прысутнасць пажараў лесу, сенакосаў, тарфяніку.

**17. Злыдні**

Злыдні — малыя, гарбатыя, скручаныя стварэнні ў вялізных ботах і шапках. Час ад часу насяляюць яны пэўную хату і там ужо нічога не вядзецца — ні ў сям'і, ні ў гаспадарцы.

Злыдні жывуць пад печчу, робяць адтуль паходы па ўсёй гаспадарцы. Заглядаюць у гаршкі з ядою. У кашу падсыпаюць пясок, у малако льюць ваду, псуюць у дзежы хлеб, у курэй крадуць яйкі. Хата, у якой жывуць злыдні, бяднее і галее.

Гэтых нячысцікаў выклікаюць гаспадары, у якіх моцнае жаданне ўзбагацець. Або, калі хтосьці ў час яды працуе, або што пляце, або пагана сябе паводзіць.



*Дэкламатарка з Гайнаўкі.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ▼ | Kaftan | Góra lodowa / Samica pawia | ▼ | Ganek / Rząd | ▼ | Solo | ▼ | Kucharz / Nazar |
| | Parasol ► / Propozycja | ▼ | | ▼ | | ▼ | | ▼ |
| ► | | | | | | | | |
| | Nurek ► / Arak | | | | | | | |
| ► | | | | Kora | ► | | | |
| | ***Польска-беларуская крыжаванка № 3*** | | | | | | | |

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку" на працягу трох тыдняў. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 50:** расказ, рыс, як, малако, Лясун, снежань, ланьвіца, Амур, чарада, рытм, алень, пляж, вар, аса, зіма, апякун, цуд, конь, ара.

Узнагароды — **каляровыя алоўкі „Progresso"** — выйгралі **Гжэсь Кандратовіч** з Гарадка, **Адам Янюк** з Катоўкі, **Марыля Тапалеўская** з Кленік і **Андрэй Чарнякевіч** з Нарвы.

**Каляровыя фламастэры** выйгралі **Каміля Карповіч** з Гарадка і **Адам Сцепанюк** з Бельска-Падляшскага.

**Віншуем!**

Узнагароды можна атрымаць у рэдакцыі „Зоркі" або чакаць іх у сваёй школе.

# Калектывізацыя

Пры канцы дваццатых гадоў камуністы ў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы пачалі праводзіць працэс гэтак званых „сацыялістычных пераўтварэнняў". Тры яго асноўныя элементы: ліквідацыя нацыянальнай інтэлігенцыі, калектывізацыя і індустрыялізацыя — вызначылі шлях да савецызацыі грамадства. Гэтак званы „савецкі народ" ствараўся камуністамі як утварэнне зусім штучнае. Узнікала новае грамадства, пазбаўленае традыцыйнай маральнасці, гістарычнай памяці і злучнасці са сваёй нацыянальнай культурай.

Калектывізацыя — гэта прымусовае яднанне аднаасобных сялянскіх гаспадарак у калектыўныя, званыя калгасамі або саўгасамі. Сяляне былі найбольшай групай уласнікаў. Зямля для іх была найдаражэйшым скарбам. Сялянская абраднасць, традыцыя, культура былі ідэйным адлюстраваннем іх кантактаў з зямлёй і прыродай. Камуністы, ствараючы калгасы, пазбаўлялі сялян не толькі зямлі і ўласнасці, але таксама асэнсавання ўсяе духоўнай спадчыны.

З увагі на тое, што ніхто добраахвотна не аддаваў свае ўласнасці, калектывізацыя праводзілася ва ўмовах шалеючага тэрору. Сяляне, якія не праяўлялі ахвоты запісацца ў калгасы, спачатку пасылаліся ў Сібір і канцлагеры, а пры канцы трыццатых гадоў масава расстрэльваліся супрацоўнікамі тайнай паліцыі. Некаторыя беларускія гісторыкі пару гадоў таму пісалі, што ў выніку рэалізацыі працэсу калектывізацыі загінула ў савецкай Беларусі каля мільёна людзей. Шмат сялян уцякло ў гарады, дзе былі павышаны ў авангард савецкага грамадства і станавіліся рабочым класам.

У 1940 годзе звыш 96 працэнтаў зямлі знаходзілася ў калгасных гаспадарках.

# Падчарыца і чорт

**(беларуская народная казка)**

Жыла-была сабе адна мачаха; была ў яе свая дачка і падчарыца. Сваю дачку яна дужа любіла, а падчарыцу біла-прыбівала, на цяжкую работу пасылала. Прачнулася раз мачаха апоўначы, прачнулася ды і піць захацела, давай падчарыцу біць-будзіць.

— Ты такая ды ты гэтакая, бяры вёдры, ідзі ў крыніцу, прынясі мне чыстае вадзіцы.

Ускочыла падчарыца бедненькая, схапіла вёдры і пабегла ў лес па ваду. Прыйшла да крыніцы, толькі нагнулася вады зачэрпнуць, аджно як выскачыць адтуль касматы, рагаты, з доўгім хвастом чорт. Бедная дзеўка так і абамлела, а чорт прасцюсенька да яе.

— Дзеўка-дзяўчына, ці хочаш за мяне замуж ісці?

— Як жа мне за цябе замуж ісці, калі ў мяне тонкай кашулі няма.

Чорт нырнуў у калодзеж дый нясе адтуль тонкую ды белую, як снег, сарочку.

— Ну, дзеўка-дзяўчына, ці хочаш за мяне замуж ісці?

— Як жа мне за цябе замуж ісці, калі ў мяне краснай спадніцы няма.

Чорт зноў ныр у калодзеж, глядзь — цягне красную матчыну спадніцу.

— Ну, дзеўка-дзяўчына, ці пойдзеш за мяне замуж?

— Як жа мне замуж ісці за цябе, калі ў мяне ні шнуроўкі, ні хвартуха няма.

— Ну, — кажа чорт, — за гэтым справа не стане.

Зноў у ваду, дый нясе ясную, як сонца, шнуроўку, жоўты, зялёны з вітамі хвартух.

— Цяпер, дзеўка-дзяўчына, ці ўсё, ці пойдзеш за мяне замуж?

— Як жа мне за цябе замуж ісці, калі ў мяне ні панчох, ні чаравікаў няма.

Нечага рабіць, зноў чорт у ваду лезе, нясе бялёшанькія панчошкі, чарнёшанькія чаравічкі.

— А цяпер, дзеўка-дзяўчына, ці пойдзеш за мяне замуж?

— Як жа мне за цябе ісці, калі ў мяне хусткі ні белай, ні насавой няма.

Яшчэ чорт у калодзеж ныр, яшчэ нясе тонкую насавую красную хустку.

— Ну, цяпер, дзеўка-дзяўчына, ці пойдзеш за мяне замуж?

— Як жа мне за цябе ісці, калі ў мяне грошай няма, не з чым вяселле згуляць.

Палез яшчэ чорт у калодзеж дый цягне машонку паўнёханькую залатых і срэбных грошай. Тым часам, пакуль ён з калодзежа ды ў калодзеж лазіў, поўнач даўно прайшла, на светак забіраць стала, а дзеўка і запела:

*— Пейце, куры, рана,*
*Што мяне спаткала,*
*Рагатая, барадатая,*
*На грошы багатая,*
*Чур мне, чур!*

А тут адкуль былі пеўні ў вёсцы і запелі. Чорт як стаяў, так і чубурдыхнуўся ў ваду, ажно вада закіпела, так і праваліўся. Дзеўка схапіла ўборы дый грошы з машной і пабегла дамоў не аглядаючыся, аж пра вёдры забыла. А ў хаце мачаха вады не дачакаецца, са злосці ажно спаць не лажыцца, устала ды і ўздула лучыну. Толькі падчарыца на парог, як кінецца яна к ёй з паленам.

— Ах ты такая, ды ты гэтакая! Дзе ты была, ды дзе дасюль хадзіла?

Тут стала падчарыца расказваць так і так ды ўборы і грошы паказваць. Мачаха так і ахнула, убачыўшы красныя ды ясныя, ды грошы залатыя, і біць забыла, ходзіць ды думае, як бы тут усяго харошага-прыгожага для сваёй дачкі дастаць; увесь дзень як не свая хадзіла, насілу ночкі дзждалася. Як толькі поўнач, разбудзіла сваю дачку, дала ёй вёдры ў рукі, навучыла, як чаго прасіць, ды і паслала ў лес у калодзеж. Прыйшла дзеўка к вадзе, нагнулася — чорт як тут быў.

— Дзеўка-дзяўчына, ці хочаш ты за мяне замуж ісці?

— Як жа мне за цябе ісці, калі ў мяне ні кашулькі, ні спадніцы, ні хвартушка, ні хусткі няма, ні грошай на вяселле?

Так усё разам вазьмі дый скажы. Чорт хуценька ў ваду ўскочыў, хуценька і адтуль лезе. Лезе, ажно пыхціць, столькі дабра нясе. Вынес усё, перад дзеўкай палажыў.

— Ну, дзеўка-дзяўчына, ці пойдзеш за мяне замуж?

А яна стаіць, як дурная, і не знае, што яму гаварыць: матка чаго прасіць навучыла, а як ад чорта адчурацца — не сказала. Чорт пачакаў трохі ды зграб дзеўку за касу і пацягнуў к сабе ў калодзеж. Так яна там і прапала.



Талон „Зоркі" № 3
18.01.1998

# Новыя пераклады беларускай літаратуры

**Літаратурна-мастацкі часопіс „Карткі" напрыканцы мінулага года — шаснаццаты нумар, канкрэтна — зноў прынёс ладную-такі порцыю беларускай літаратуры: Васіль Быкаў, Анатоль Сыс, Адам Глёбус, Алег Мінкін, Людка Сільнова, Галіна Дубянецкая, Лявон Вольскі, Славамір Адамовіч, Алесь Аркуш, Ігар Бабкоў, Ігар Сідарук. Падборку зрабіў і амаль усё пераклаў Ян Максімюк.**

Галоўны рэдактар „Картак" Багдан Дудка публічна наракае на пустую касу, малую датацыю, недахоп спонсараў, пагражае, што часопіс больш не паявіцца, а тым часам у 1997 годзе выйшлі тры яго нумары. Два з іх — у вялікай ступені прысвечаныя сучаснай беларускай літаратуры. У першым, шумна прэзентаваным у Беластоку, Бельску і Гайнаўцы яшчэ ў сакавіку, многа было калялітаратурнага матэрыялу, які знаёміў з праблемамі сучаснай беларускай культуры. Апошні — на першае месца ставіць чыста літаратурны тэкст.

Падборка пачынаецца апавяданнем Васіля Быкава „Сцяна", якое дало загаловак раскіданаму ў менскім выдавецтве зборніку прозы пісьменніка. Гераіняй апавядання з'яўляецца турэмная сцяна ў краіне, дзе „заўсёды былі дыктатары". Выхад з камеры праз такую сцяну толькі адзін — на плаху.

З прозы ў „Картках" ёсць яшчэ тры „дамавікамэроны" Адама Глёбуса: „Ванітніца", „Кадук" і „Грыбнік", апавяданне „Стары сябра з Захаду" Ігара Бабкова і макабрэска Ігара Сідарука „Цвікі былі добрыя". І Бабкоў, і Сідарук прадстаўлены таксама як паэты, першы — цыклам вершаў пра смерць, другі — грубымі вершамі пра выраджэнскі свет. Наколькі Бабкоў сканструяваў тэорыю існавання беларускасці ў „сне, які сніўся нікому" (што растлумачвае Ян Максімюк у эсэ „Паралельныя рэчаіснасці Ігара Бабкова"), настолькі Сідарук стварае трэцюю рэчаіснасць: агідную, безнадзейную, у якой бязвольны зброд чакае цудаў ад укрыжаванага сабакі. Калі чытаеш „Цвікі..." некалькі разоў хоча запратэставаць страўнік.

Ды і астатнія прэзентаваныя ў часопісе аўтары не сузіраюць свету ў яркіх вясёлкавых колерах. Славамір Адамовіч у непрыязным свеце настроіўся на змагарна-эратычны тон, Алег Мінкін адчувае боязь раба, навыкласа да панскага абцаса, а Лявон Вольскі апявае балота, якое засмоктвае нас глыбей і глыбей.

Мастацтва перакладаў Яна Максімюка бачыцца мне, перш-наперш, на вершах Анатоля Сыса. Бачыцца таму, што спрабаваў брацца за іх і я, але пафасныя або да болю шчырыя вершы Сыса, на польскай мове выходзілі нейкімі наіўнымі. Адным словам, пераклад не атрымліваўся. На Сысе праехаўся не адзін я. Нават пераклады Міры Лукшы і Сакрата Яновіча ў папярэдніх „Картках" могуць пакінуць у польскага чытача здзіўленне, чаму Анатоля Сыса лічаць у Беларусі геніяльным паэтам. Максімюк не пакідае ніякага сумневу, што гэтыя дзіўны і крыху анахранічны, як на польскія ўмовы, паэт, гаворыць сваім голасам, прыгожымі метафарамі пра справы фундаментальныя не толькі для беларусаў: бацькаўшчыну, маці, паэзію.

Апошнія „Карткі" — гэта не выключна беларуская літаратура. Ёсць у іх і салідная падборка польскіх аўтараў. У некаторых, аднак, хоць ускосна, але паяўляецца беларуская тэматыка. Як хаця б у размовах з народжаным у Бельску паэтам Ежы Плотовічам і стваральнікам тэатра „Вершалін" Пётрам Тамашуком, ці ў „Сёмым вершы супраць дзяржавы" Яцка Падсядлы. Можа гэта і таму ў некаторых беластоцкіх кругах пайшла гаворка пра часопіс як пра беларуска-жыдоўскую (без тых другіх, вядома, ніякай інтрыгі не адбываецца) агентуру. Павіншаваць рэдактараў з поспехам.

**Мікола Ваўранюк**

Якія мы людзі

# Чарга

Было гэта не так даўно. Тады, калі яшчэ ў нас людзі стаялі ў чэргах. Хто памятае — таму гаварыць не трэба, як гэта ўсё выглядала. Быў момант, калі ў людзей было больш грошай, чым тавару ў крамах. Калі нешта паяўлялася ў краме — практычна купіць гэта мог кожны, бо цэны на тавары былі нізкія. Людзі куплялі без меры, на запас, пасля выкідалі бутэлькі ёлкага алею, пачкі мукі з дaўганосікамі, сапсаваную крупу ды прыправы з моллю... А пасля зноў ішлі купляць у запас, бо было танна. У магазінах ізноў бракавала тавару. Атрымлівалася замкнутае кола.

* * *

Сяброўка выбралася ў „Дэлікатэсы", дзе найчасцей рабіла закупы. Якраз давалі „Яжынку", добрую на той час кухонную прыправу, і яна пакорна стала ў доўгую чаргу. Людзі стаялі, пераміналючыся з нагі на нагу, чакалі, калі нарэшце наблізяцца да прылаўка. Усе былі нейкія нервовыя, неспакойныя.

Асабліва злавала іх тое, што некаторыя падыходзілі без чаргі, паказвалі легітымацыю і бралі, што ім трэба. А некаторыя нават і не паказвалі ніякага пасведчання, а без чаргі куплялі. А, Бог з імі, уздыхнуў нехта, лепш не быць у іх скуры. Інваліды ж! Маюць права купляць без чаргі.

Раптам з другога боку, таксама без чаргі, падышла маладая жанчына. Ну, тут дык ужо ўся чарга война. Жанчына была прыгожа апранутая, твар яе быў размаляваны: напудраны цёмнай пудрай, памаляваныя вочы і вусны. Было ёй, бадай, гадоў трыццаць пяць.

Сяброўка ведала гэту жанчыну. Яна жыла недзе побач з ёю і часта праходзіла каля іхняга блёка. Нельга было яе, зрэшты, не заўважыць. Заўсёды элегантная, яна дэманстравала запах добрай парфумы і нейкую чароўнасць жаночых рухаў незапрацаванай дамы.

Нямаз зашчымела нешта ў сяброўчыным сэрцы, бо і ёй можа хацелася б пахнуць французскай парфумай, ды ніколі не заставалася на яе грошай. Заўсёды былі больш важныя патрэбы. Можа і ёй хацелася б хадзіць з гэткай грацыяй, а не абвешанай сеткамі з бульбай ці мінеральнай вадой. Згорбішся тут і ныркі дaканаеш!

І зноў буду таўчыся ў гэтай чарзе, падумала сяброўка, а тут табе падыдзе маладая, расфуфыраная ляля ды будзе пхацца без чаргі! Не, не вытрымала сяброўка ды кажа ёй: а вы дык што, мо таксама інвалідка? Жанчына толькі глянула на яе з нейкім жалем і нічога не сказаўшы, прывіталася.

Якраз падышла яе „левая" чарга, і жанчына папрасіла даць ёй дзесяць пачак „Яжынкі". Натоўп зароў, як стаяў. Цяпер ужо кожны хацеў нешта сказаць. І высветлілася, што ў народзе нямала творчай інвенцыі. „На гандаль купляе! — аж затросся нейкі мужчына. — Навошта ж ёй столькі?!" Жанчына зрабілася пунсовая. Пачала тлумачыцца, што мусіць падзяліцца з сястрою, бо і яна ёй заўсёды бярэ, калі трапіць на „Яжынку". „Спекулянтка! — сакацелі бабы навокал. — Не давайце ёй столькі!" Панюся ў футры з норак дакінула з адпаведнай да яе вопраткі дасціпнасцю: „Pewnie będzie jadla na gęsto!"

Нават маёй сяброўцы зрабілася прыкра. Не спадзявалася яна, што натоўп зусім азвярэе, і шкадавала ўжо, што пачынала з гэтай жанчынай гаворку. Можа не варта было даліваць алею да агню. Навошта было патрэбна тое маё пытанне...

Жанчына палажыла ў сумку тую няшчасную „Яжынку", развіталася і падышла да маёй сяброўкі. Відаць, і яна заўважыла яе, жывучы па-суседску. „Проша пані, — сказала яна сумным голасам, — я вельмі хворы чалавек, не дзівіцеся, што не стаю ў чарзе". — „Вы?!! — не паверыла сяброўка. — Вы ж — як рэпка!" Жанчына развіталася і выйшла.

Мая сяброўка — сумленны чалавек і нейкі час не магла прыйсці ў сябе, што няхочучы зрабіла чалавеку крыўду. Ну што я сказала, меркавала яна, я ж толькі запыталася, ці і яна інвалідка. Але слабое гэта было пацяшэнне. Успомні, дурніца, якім тонам ты гэта сказала, дакарала яна сама сябе, „A pani też jest inwalidką?!". „A pani też jest..." „A pani..."

Сяброўка не магла спаць па начах. Усё чакала, калі зноў сустрэне гэту жанчыну на вуліцы і пагаворыць з ёю. А мо нават запросіць да сябе ў хату на каву ці на чаёк. Перапросіць яе, распытае, на што яна хварэе, паспачувае ёй. Але, як на злосць, сяброўка больш не бачыла гэтай жанчыны. А так карцела растлумачыць ёй проста, па-бабску, што інваліда чалавек уяўляе сабе цалкам інакш: старога, недалужнага, неахайнага і абы-як апранутага. Такому ўжо нічога не ў галаве. А вы — маладая і прыгожая, хацелася сказаць.

Жанчына, аднак, не паяўлялася, і сяброўка вырашыла, што мо яна паехала ў санаторый. Нават крыху супакоілася і прызабыла пра тое прыкрае здарэнне. Бывае...

Мінула ўжо месяцы два, калі сяброўка, едучы каля суседняга блёка, убачыла на зямлі раскіданыя галінкі яліны. Нехта памёр, мільганула ў яе думка.

„І падумаць толькі, такая маладая і прыгожая была, двое дзетак малых пакінула, мужа закаханага ў яе без памяці, — адазвалася на яе бязмоўнае пытанне старая жанчына, што сядзела на лавачцы. — Трыццаць два гады ёй было ўсяго. На рака памерла. А як яна жыць хацела..."

Так, гэта была яна. Сяброўка ўжо не мела ніякіх сумненняў. Памерла. Як сказала, так і выйшла. А мы, тыя, што не давалі ёй купіць без чаргі, тыя, што аплявалі яе і не паверылі ў страшэннае, нябачнае калецтва гэтай прыгожай жанчыны, мы — жывём... На душы стала горка-горка.

**Ада Чачуга**

# Новыя вершы

**Міра Лукша**

## Дарога

За чорнай шыбай вечнасць
прамільгае.
У россыпе іскраў імгненне канае.
У Гайнаўку цягнік мчыцца
з Беластока
Тунелем у паветры, нябачным
для вока,
А гэта ўспамінаў і лёсаў дарога,
Пуці да роднай хаты і роднага
Бога.
Нежывыя рэйкі ўслухаюцца
ў памяць
І звонкія рысы засыпае замець.
Зарастае ў цемры палыновым сумам
Абочына часу. Сівер золкіх думак.

**Барыс Руско**

## Адліга

Балота ў пасмах.
І падае як падала,
адно быццам інакш.
Адліга з прымараззю,
як крык з маўчаннем,
заўсёды побач.
Птах лічыць лісце,
а ў чыстым шкельцы
ўспух часу бутон.

## Падслухана

— Альберт,
што значыць вынік дзелі
і хуткасці квадрат звышсветлавай?
— Масу ўяўную, Ісак.
— У катэгорыях матэматыкі
дэфініявальны мы?
— У мове Бога дэфініявальна
ўсё, Ісак.

## Корда

Ад крывой сумліву
да крывой безнадзеі
найпрасцей бегчы
кордай няпэўнасці.
Пад сціртай прамых
напрамкі
укладзены адвольна.

**Юрка Буйнюк**

* * *

аўтобус коціцца памалу
натоўп бы ў бочцы з селядцамі
мары праз акно пранікаюць
на той начны белы свет
на кветкі вясны
кветкі ўспамінаў

мароз-мастак малое
пэндзлем на шыбе водзіць
прыгожа гуляе
на шкле залатым незвычайным

— мары ці яву —

тут вось лілея
як зорка зіхаціць
у месячным сяйве
беллю сваёй
а фіялка сінее да нябёс
ёлка прызматам колераў
свет зімовы раз'ясняе
зязюльчын лён
вясёлай чарадой заквітае
каханнем
ёлка рассыпае іголкі
праменьчыкі жаданняў

гляджу на натоўп тоўстых сумак
а акно

колькі акно дае шчасця
празрыста-іскрыстага
у думках на плач і смех
калядных

# Непатрэбная вайна

— Гэта была зусім непатрэбная вайна, — успамінае спадарыня Валянціна Лёнцарыц, родам з Гайнаўкі, зараз жыхарка Заграба. — Сіротамі засталіся малыя дзеці, маці плачуць па сынах, многія сталі калекамі на ўсё жыццё.

Вайна ў былой Югаславіі выклікала ў жыхароў усяго свету велізарнае здзіўленне. Як жа ў цывілізаванай Еўропе магло ўспыхнуць такое варварства, такая разня, такое знішчэнне ўсялякіх помнікаў культуры і гісторы супольна пражываючых нацый! Прычына ваенных дзеянняў як бы вядомая — прага свабоды, задаўненыя сваркі, гістарычны, нацыянальны і рэлігійны падзел, які сацыялістычная дзяржава не патрапіла ліквідаваць, а наадварот, выклікала толькі дадатковыя непрыязнасці. Пра своеасаблівыя адносіны паміж жыхарамі Заграба перад вайной, у час ваенных дзеянняў і ў цяперашні момант, пра праваслаўных, якіх у гэтым горадзе невялікая жменька размаўляю са спадарыняй Валянцінай Лёнцарыц, колішняй жыхаркай Гайнаўкі, якая ўжо дваццаць сем гадоў жыве ў Харватыі, а на Каляды прыехала да сям'і ў Гайнаўку.

— Перад вайной людзі жылі мірна, без асаблівых сварак. Аднак, ужо і тады адчувалася варожасць паміж харватамі і сербамі. Харваты лічылі сябе больш элітарнымі, культурнымі і працавітымі. Сербы, людзі больш гасцінныя, жартаўлівыя, яны хутка выклікаюць сімпатыю незнаёмых. Перад вайной сербы займалі многа важных урадавых, вайсковых і паліцэйскіх пасад, за што бралі высокія зарплаты. Пасля дэмакратызацыі жыцця многа харватаў выязджала на захад. Былі і такія сем'і, дзе дома заставаліся толькі ўнукі з бабуляй і дзядуляй, а ўсе маладыя працавалі на захадзе. Калі вярталіся, былі багатымі. Хаця атэізацыя была вялікая, хадзіць у касцёл і царкву дазвалялася. Я праваслаўная, а муж, які памёр больш чым год таму, быў харватам-каталікам — асобай вельмі талерантнай. У харвацкіх сем'ях ужо і перад вайной заўважаліся непрыхільныя адносіны да праваслаўных. Калі ў кампаніі паяўляўся нейкі серб, размовы рабіліся больш сухімі і афіцыйнымі. Ведаю здарэнне, калі харватка выйшла замуж за праваслаўнага серба, дык незадоўга амаль уся сям'я яе адраклася. А такіх жа сем'яў было болей, дзе нацыянальны фундаменталізм і ўспаміны з мінулага не дазвалялі нармалізаваць суадносіны. Некаторыя сербы не прызнаваліся да сваёй нацыянальнасці і веравызнання. Паколькі краіна была атэізаванай, бывала і так, што толькі муж ды жонка ведалі пра веравызнанне партнёра. Гэтая непрыязнасць і прага вольнасці давялі да зусім непатрэбнай вайны. Яе можна ж было пазбегчы так, як у Славеніі ці Македоніі. Аднак сербскія палітыкі не хацелі даць харватам незалежнасць. Найбольшыя масавыя забойствы здараліся найчасцей на мяжы з Сербіяй і ў Босніі. Пра сам Заграб, у які сербская армія не здолела ўвайсці, пісалася і гаварылася менш.

— Некаторыя сербскія вайсковыя злучэнні здаліся і выехалі, з некаторымі ішлі цяжкія змаганні, — паясняе спадарыня Валянціна. — Пасля бамбілі і абстрэльвалі горад. Часта трэба было хавацца ў бамбасховішчы, куды беглі харваты і сербы. Многа сербаў уцякло, баючыся рэпрэсіяў з боку харвацкіх нацыяналістаў. З тымі сербамі, што засталіся, было па-рознаму. Былых вайсковых або тых, якіх падазравалі ў супрацоўніцтве з сербскай арміяй, арыштоўвалі. Што далей было з імі, не ведаю. Гэта ж была вайна. На дахах дамоў пасаджваліся снайперы. Ідучы ў магазін ці да суседзяў, чалавек не ведаў ці вернецца. Бальніцы былі запоўнены і не хапала медыкаментаў. Людзі гінулі ад мінаў, забароненых міжнароднымі канвенцыямі. Людзі на ўсё жыццё засталіся калекамі. Не хапала харчавання, не абагравацца кватэры. Аднак, найбольшыя вайсковыя змаганні і найбольшыя знішчэнні былі ў Харватыі, дзе пражывала найбольш сербаў — у Крайне. Вельмі знішчаны быў і Дуброўнік — сімвал старадаўняй архітэктуры і культуры.

Непатрэбная вайна, як заўважыла мая субяседніца, закончылася. Палітыкі ўсіх бакоў, у большай ці меншай ступені засталіся незадаволенымі. Многіх Міжнародны трыбунал хоча судзіць за злачынствы супраць чалавецтва — масавыя забойствы.

— Зараз пачалося адбудоўванне бальніц, школ, прадпрыемстваў і жыллёвых дамоў, — з палёгкай гаворыць мая суразмоўца. — Людзі пачалі працаваць. Большасць праваслаўных, якіх цяпер няшмат, вяртаецца ў горад. У Заграбе адна праваслаўная царква. Грошы на адбудову сваіх дамоў сербы атрымліваюць. Калі Харватыя хоча ўвайсці ў Еўрапейскі саюз, вымушана неяк дбаць пра свае нацыянальныя меншасці. Тыя сербы, якія не супрацоўнічалі з войскам — на волі і могуць працаваць. Аднак ніякай адказнай працы праваслаўныя не атрымліваюць. Найчасцей ідуць працаваць чорнарабочымі.

Магчыма, у Харватыі сітуацыя менш складаная, чым у Босніі. Як будзе, калі з былой Югаславіі выедуць міжнародныя войскі, час пакажа. Застаецца толькі спадзявацца, што вайна і ўсе варварствы з ёй звязаныя не вернуцца ў Еўропу.

**Аляксей Мароз**

# Чытацкія клопаты

Я — чытач „Нівы" з 1990 года. Кожны тыдзень купляю тыднёвік і чытаем яго разам з жонкай ад першай да апошняй старонкі. У мяне ўсе нумары „Нівы" падшыты і захоўваюцца ў хатняй бібліятэцы. У нас, у вёсцы Клюковічы, распаўсюджваннем „Нівы" займаецца паштовае аддзяленне, і я там нашу газету купляю. У нашу пошту прысылаюць па 6 паасобнікаў кожнага нумара, але, на жаль, не ўсе яны распрадаюцца. Інакш справа маецца з „Нівай" з календаром. Ахвотных купіць гэты нумар у нас многа і мне, пастаяннаму чытачу, яе не хапіла. Я хадзіў на пошту ў аўторак, але навагодняга нумара „Нівы" яшчэ не было. У сераду пошта была закрыта, дык я чакаў чацвярга, калі павінны былі прывезці наш тыднёвік. Якое ж было маё здзіўленне, калі я на пошце даведаўся, што „Нівы" не дастану. На маю просьбу прадаць мне „Ніву", кіраўнічка адказала, што адзін экземпляр яна ўзяла сабе, а рэшту забралі з сабой пісьманосцы. Тады я ўсхваляваўся не на жарты. „Як гэта можа быць! — кажу. — То я купляю кожную „Ніву", без календара, а як паявілася з календаром, то газеты для мяне няма!? Няхай пісьманосцы прадаюць па хатах таксама „Ніву" і без календара!" Кіраўнічка, каб паладзіць справу, абяцала прывезці мне „Ніву" з Чаромхі. Я на гэта нічога не сказаў, толькі падумаў: „Акурат „Ніва" чакае цябе ў Чаромсе. Яе напэўна там ужо раскупілі". Тады сардэчна прашу рэдакцыю даслаць бандэроляю першы сёлетні нумар „Нівы" з календаром. Буду за гэта вам вельмі ўдзячны.

**Уладзімір Юхімчук**
**Клюковічы**

**Ад рэдакцыі:** Падобны ліст атрымалі мы ад Канстанціна Пытлюка з Вычулак. Спачуваем нашым чытачам і неадкладна высылаем ім патрэбную „Ніву". Калі ў каго будуць падобныя клопаты, пішыце ў рэдакцыю, а мы будзем старацца дапамагчы ў іх вырашэнні.

Адгалоскі

# Аб маладых паэтах

У 48 н-ры „Нівы" ад 30 лістапада 1997 года Ада Чачуга ў артыкуле „Віктар Швед — паэтычны і музычны" апісала вечар, прысвечаны паэзіі згаданага паэта, які адбыўся 12 лістапада мінулага года ў Факультэце педагогікі і псіхалогіі Універсітэта ў Беластоку. Пад канец артыкула аўтарка напісала наступнае: „А пасля была дыскусія і студэнты запыталіся: „Ці ёсць новая змена паэтаў?" Ян Чыквін не патрапіў даць канкрэтны адказ і ўсе зразумелі, што іх няма. Пятро Крук не дараваў: ёсць, ён нават іх ведае, толькі ніхто не хоча імі заняцца!"

Я поўнасцю падтрымоўваю выказванне Пятра Крука і, каб не быць галаслоўным, прыгадаю конкурсы беларускай паэзіі і прозы, якія супольна арганізуюць Беларускі саюз і „Ніва". У першым выпуску гэтага конкурсу ў 1996 годзе ўдзельнічала дваццаць аматараў вершаскладання і празаічных формаў, а яго плёнам стаў калектыўны зборнік „Словы ў лабірынтах". На наступны год свае працы надаслалі трыццаць чатыры аўтары, а лепшыя творы ўвайшлі ў зборнік „Плыву морам майго жыцця". Гэтыя два прыклады наглядна сведчаць аб тым, што ёсць у нас людзі, якія праяўляюць цікавасць да літаратурнай творчасці. Нехта можа пакрытыкаваць яе ўзровень, а нават усю гэту пісаніну назваць графаманіяй ці вершаплёцтвам, аднак, калі хто выказваецца за далейшае развіццё беларускай літаратурнай творчасці ў нас, не павінен ставіцца да гэтай з'явы абыякава. Непакоіць мяне адно: чаму Літаб'яднанне „Белавежа" ці БГКТ не цікавяцца пачаткоўцамі, якія ставяць першыя, часам яшчэ бяздарныя, крокі на літаратурнай ніве? Гляньце, сябры, вакол сябе і памяняйце свой стыль працы!

**Мікалай Лук'янюк**

# Пішы к чорту!

Небяспечна „апісваць". Нават пад псеўданімам. А і пад крыптанімам не менш. Ну і хай бы, адчувае хіба ў такім выпадку чалавек той халадок у душы, бы хто ўжо прыклаў пісталет да ягонага вуха ці шмаруе на цябе ў суд. Але за табою — Справядлівасць і Праўда, бо ты — іхні Рыцар! А якія крылы растуць табе на лапатках, калі твая пісаніна мае сэнс, калі штосьці ўдалося „залатвіць"!

А калі камусьці ўдасца „залатвіць" цябе?!

Некаторых журналістаў „Нівы", м.інш. Веру Валкавыцкую, цягалі па судах чатыры разы. І без прозвішчаў тэксты былі, але „героі" адчулі сябе зняслаўленымі. Ведаеце, бразнеш у стол, ножніцы па-свойму адбразнуць! Часам у гісторыі, якую апісваеш, трэба памянуць прозвішчы, нават некаторыя факты, бо, бывае, прадстаўляем не адзінкавы прыклад. „І так бывае", як пісаў Міхась Хмялеўскі. Міра Лукша аднойчы ў адну гісторыю саткала тры. Праз пару тыдняў у рэдакцыю з'явіліся... чатыры асобы, якія сцвердзілі, што там апісаны якраз яны і пагражалі аўтарцы судом. Добра, што трапілі яны ў рэдакцыю не ўсе амаль у той жа час. Адзін на аднаго глядзелі як на дэгенератаў, а сябе не бачылі. „Як вам не соромна?!" — адважылася сказаць аўтарка замалёўкі. Бо сораму не было ў іх, калі рабілі кепска, а таму засараміліся, што „апісалі". *„Ніва" ест почытнэ часопісмо!* — пазваніў усхваляваны пан В. з М., што ўцешыла аўтарку рэпартажу пра Н. В. Але нашто было выкопваць справу трыццацігадовай даўнасці? *Чаму вы кідаеце няславу на памерлых?!* — крычаў пан В. А справа ў тым, што, як гаворыць плётка, сапраўднага забойцу пакараў Бог. Ды пра гэта ні слова ў тэксце не было. Ударыш у стол... Але — *Не паказвайцеся цяпер лепш у нас!*

Хоць і гонар найвялікшы, найбольш небяспечна мясцоваму карэспандэнту. Бо піша пра тое, што пад бокам. А ж нікому не дагодзіш! А праўда, хоць бы была і найбольш аб'ектыўная, правераная, можа быць інтэрпрэтаваная па-рознаму, бо ж інтэрпрэтацыя — адзін суб'ектывізм. Разбіраеш усё ж на свой розум, паводле свайго сэрца і сваіх інтарэсаў. Кожны мае сваю праўду і за яе стаіць.

Аўтар дапісу не мусіць інтэрпрэтаваць фактаў (ніўцы вельмі гэта любяць!), хопіць суха пра іх напісаць. Скажуць самі пра сябе. Але ўсё ж кагосьці зачэпіш, — як не войта, то сакратара, як не суседку-самагоншчыцу, то ўладнікаў сабак... Каму мяшае рух на вуліцы і забруджанае паветра, каму ўсё мала таго прагрэсу. Адзін хваліць Васіля, іншы гатоў і аўтара, і Васіля ўтапіць у лыжцы вады, калі не ў чым горшым. А беларусы надта ж уражлівыя на крытыку!

Беларусы любяць, каб іх адно хваліць. А пахвала павінна быць напісана проста ў вочы, каб не шукаць мілых сэрцу слоў між вершамі. Каб было ясна: „Добра піша!". А добра — то добра.

А ці можа быць так, каб **жаданае** было рэальным сёння? Калі шчэрацца руіны, аблупліваецца мур, гніе плён, чалавек чалавеку воўкам?.. Ці на старонках газеты маем прадстаўляць „пацёмкінскі" свет? Нават, калі час ад часу трэба надрукаваць тэкст *ku pokrzepieniu serc,* не можа быць газета *бюлетэнем неіснуючага раю*!

А, што цікава, народ любіць пацешыцца чужой бядою, пабачыць, як кагосьці душаць за горла, як ліецца кроў. Вядома, нішто так не ажыўляе газету, як труп. А калі нічога такога не дзеецца? То што, мае можа карэспандэнт ці рэдактар паехаць куды нарабіць якое брыды, каб была гарачая тэма ў новы нумар?! Ну, найлепш было б, калі б якога пісаку доўга-доўга мэнчылі чэрці. Вось мелі б на што дзівіцца чытачы!

**Вандал Арлянскі**

# Пэўна наша доля такая

**Ян КАВАЛЬЧУК нарадзіўся ў 1912 годзе. І хоць яму пайшоў восемдзесят шосты, памяць у яго нядрэнная, ды і слых не падводзіць.**

**Жыве ён у Чаромсе па вуліцы Грунтовай. Жонка ў яго памерла і старасць ён у адзіноце праводзіць. Час ад часу на рыначак выйдзе, каб са знаёмымі пагутарыць. І так цякуць дні...**

— Пытаеце, ці я ў бежанстве быў? Прыйшлося. Пяць гадоў блукаўся. Мне два годзікі былі, як выязджалі ў Расею, таму падарожжа не памятаю, а толькі тое, што матуля калісьці расказала...

Жылі мы ў Рагачах, што ў Мілейчыцкай гміне. Бацька працаваў на гаспадарцы, маці яму памагала. У сям'і я быў адзіным сынам.

Пры царскім парадку ў нашай вёсцы пяць цэркваў было і карчма, ды сядзіба воласці — тут і суд быў, і арышт.

Бацьку не памятаю. Перад маім нараджэннем у царскую армію яго прызвалі... Гэта было ў 1911 годзе...

Калі з захаду пачалі немцы падыходзіць, а на дарогах паказаліся калоны падводаў з бежанцамі, надумалі і нашы пакідаць вёску. Пагрузіла матуля багаж на фурманку, прыгалубіла мяне маленькага да грудзей і разам з бабулькай і дзядзькам павандравалі ў Расею. У Рагачах засталася сям'я Язэпа Рышчука.

Нашым прытулкам аказаўся хутар Трацякі, што ў Варонежскай губерні. З намі спыніўся таксама дзядзька і некалькі іншых рагачоўцаў. Бабулька памерла недзе каля Баранавічаў, у дарозе. Нас памясцілі ў заможнага гаспадара. Трацякі аказаліся вялікай мясцінай. Людзі багата жылі, а да бежанцаў з вялікім сэрцам аднесліся. Прыносілі ежу і адзенне. У 1916 годзе пераехалі мы ў Маскву да цёткі. Яна памагла матулі ўладкавацца прыбіральшчыцай на чыгунцы.

Пачалася рэвалюцыя. Настаў цяжкі 1917 год. Вышэйшая сіла загадала, каб мы яшчэ з бацькам сустрэліся. Яго доля таксама кінула пад Маскву. Тут мы з ім спаткаліся. Паколькі ён быў салдатам, не жыў разам з намі, аднак часта прыходзіў на кватэру. Насіў мяне на руках, цешыўся сваім сынам...

Матуля сказала бацьку, што яго брат жыве ў Трацяках. Паехаў ён на гэты хутар брата наведаць. І больш не вярнуўся. Банда забіла.

Пасля гэтага здарэння і мы вярнуліся на папярэдняе месца, але гэта не быў ужо даўнейшы хутар. Збожжа бальшавікі папалілі. Настаў голад. Мясцовыя пачалі на нас касавурыцца, бо цяпер мы багацейшымі сталі. Нам у час рэвалюцыі ўдалося нешта прыхаваць, а іх банды аграбілі дагала. Здаралася, што цяпер сяляне бежанцам вопратку забіралі.

Пачалі мы думаць аб вяртанні на Бацькаўшчыну. Трох нашых, рагачоўскіх, і матуля купілі каня і воз, пагрузілі на яго сваю маёмасць і паехалі.

Прадукты нам хутка скончыліся і елі мы, што ў дарозе дасталі. На начлег у лесе спыняліся, грыбы збіралі, суп варылі.

Гэта быў 1919 год. Прыехалі мы ў Роўнае. Здох нам конь. Кожнаму прыйшлося далей самому дамоў дабірацца.

Купіла матуля драўляны возік (цялежку), пагрузіла на яго неабходныя рэчы, а апошні багаж здала на чыгунку, каб на станцыю ў Брэст паслалі. У Брэсце свайго багажу мы не знайшлі. Матуля апошнія свае клункі адправіла чыгункай у Рагачы, а самі пехатою накіраваліся мы ў Высокае. Недалёка за горадам дагнаў нас польскі салдат, на фурманцы якога і даехалі мы ў Высокае. Па ўсіх дарогах мы бачылі шмат польскага войска.

У родную вёску дабраліся мы пад восень 1919 года. Рагачы не пацярпелі ад вайны. Усяго дзве хаты згарэлі. Наша — стаяла па-даўнейшаму, непарушаная.

Перад намі некаторыя вярнуліся з бежанства. Сярод іх быў сваяк, які стаў леснікам. У яго было засеянае поле і пасаджаная бульба. Меў ён дубальтоўку.

Запамяталася мне такое здарэнне. Да лесніка ўнадзіліся зладзеі, кралі бульбу. Надумаў ён іх напалохаць. Насыпаў у дубальтовачную кулю солі, і калі ноччу ўбачыў зладзеяў, выстраліў у аднаго з іх. Пасля выявілася, хто быў злодзеем, бо соль надта раз'ела рану. З таго часу больш ніхто не хадзіў на леснікова поле.

У бацькавай хаце жылі мы адны з матуляй. Яна займалася гаспадаркай, а я стаў пастухом. Незадоўга вярнуўся з бежанства наш дзядзька, з якім жылі мы ў Трацяках. Закватараваўся ён у нашай хаце, супольна зрабілі рамонт. У 1924 годзе выехаў ён на Валынь. Прадаў у Рагачах сваю маёмасць, у тым ліку і палову нашай хаты (сваю частку). Перарэзалі мы яе на дзве палавіны.

У 1930 годзе мы надумаліся разбудаваць хату. Спатрэбіліся да таго падваліны. Знаёмы яўрэй параіў купіць матэрыял у адлеглых за 17 км Касцюковічах. Паехаў я туды. Там пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай. Наша знаёмства пачалося вясной 1931 года, а ўвосень згулялі вяселле.

Недзе праз год па нашым шлюбе выйшла замуж мая маці. З айчымам пражыў я разам шэсць гадоў.

У войску я не служыў. Пры саветах мяне мабілізавалі ў рабочы батальён. Апранулі ў вайсковую форму, далі вінтоўку і пяць патронаў. Мы будавалі бункеры на лініі Мельнік — Драгічын над Бугам. (На мабілізацыю прызываўся я ў Кляшчэлях, а на камісію ставаў у Вяліках Дзвонах за Высокім.) Кватараваліся мы ў палатках у Машчоне.

Як немец пайшоў на Расею ў 1941 годзе, мы апынуліся на лініі фронту. У час адной атакі старшына загадаў: „Таварышчы, на врага!" А я яму кажу: „Дзе нам ісці з вінтоўкамі на танкі".

Уцякаючы ад немцаў, мы апынуліся ў Журобічах. Там пераапрануліся ў цывільнае адзенне і па некалькі чалавек вярталіся дамоў. Нас было трое: Старчэўскі з Маскоўцаў, Галёнка з Кляшчэляў і я. На дарозе за Мілейчычамі схапілі нас немцы. Загналі на мілейчыцкі зборны пункт, а пасля ў Кляшчэлі, і нарэшце у Бельск-Падляшскі. Па дарозе ў Бельск, каля Сухавольцаў, немцы ўбачылі двух рускіх салдат на конях. Думалі, што гэта руская разведка. Спынілі калону, а нас узялі на прыцэл пад кулямёты. Рускія праехалі спакойна і мы пайшлі далей. Ледзь нагамі валачылі ад стомы і голаду.

У бельскім зборным пункце накармілі нас варанай канінай і пагналі ў напрамку Малкіні. Крыху спыніліся мы ў вёсцы Новы Нур, а пасля праз Малкіню пайшлі на Остраў Мазавецкі.

Праходзілі мы праз гэты горад і адна з мясцовых жанчын кінула нам бохан хлеба. Гэтага, хто яго злавіў, палонныя задушылі, выдзіраючы яму хлеб. Жанчыну немец адразу застрэліў.

Апынуліся мы ў цэнтральным лагеры каля Ломжы. На работу гналі нас у Ружанскі лес. Там грузілі мы аграмадныя снарады. Адзін несла па сем чалавек. На гэтай рабоце прайшло нам каля паўгода часу. Пасля зноў загналі нас у Остраў Мазавецкі, саставілі спіскі палонных. Нас, мясцовых, адпусцілі дамоў. Рускіх вывозілі ў Кентшын на будову бункера для Гітлера.

Адпускаючы дамоў, немцы забіралі ў нас лепшы абутак ды адзенне і давалі рускім.

З палону вяртаўся я з Мікалаем Высоцкім з Чорнай-Царкоўнай і Ігнацым Галімскім з Кажанюўкі каля Драгічына.

Сустрэча са сваякамі ў Макарках, што каля Гродзіска, аказалася даволі непрыемнай. Мяне палічылі бадзягам і не ўпусцілі ў хату. Калі аднак справа выяснілася, накармілі мяне і далі чыстую вопратку. Пасля адвезлі ў Журобічы, а затым у Касцюковічы. З Касцюковічаў паехалі мы ў Рагачы. Калі я ішоў быў на мабілізацыйную камісію, важыў 108 кілаграмаў. Пасля зняволення засталося 39 кг. Маёй ядой у палоне былі перш за ўсё трава і вада.

У хаце застаў я жонку з трыма ды здаровымі дочкамі. Дачакаліся мы канца вайны. Аднак у 1952 годзе прыйшлося мне яшчэ многае пацярпець. Калі я пасвіў коней на сенажаці, дайшло да бойкі рагачоўцаў з дашоўцамі. Адзін з бандытаў параніў мяне штыком. Толькі дзякуючы ахвярнай лекарскай дапамозе я астаўся ў жывых і дачакаўся спакойнай старасці і пенсіі.

У 1973 годзе прадаў я будынкі ў Рагачах мясцоваму лясніцтву, а пасля зямлю перадаў дзяржаве і выехаў у Чаромху. Дочкі выйшлі замуж, дзве ў Чаромху, трэцяя ў Мілейчычы. У Чаромсе дочкам і мне не пашанцавала. Яны засталіся ўдовамі, а я — ўдаўцом. Пэўна ўжо наша доля такая...

**Запісаў Уладзімір Сідарук**

# „Наша ніва" і ўсходняя Беласточчына

**Частка 8**

Новага тыпу інфармацыя з'явілася ў 25 нумары тыднёвіка за 1907 год. Яе аўтар, Халімон з-пад пушчы, паведамляў аб паводцы на рацэ Нарве. Паводка нанесла вялікія шкоды сялянам з Плёсак і з белавежскіх вёсак, бо забрала з лугоў скошанае сена. Аўтар падкрэсліваў, што сітуацыя белавежскіх сялян лепшая чым іншых, а гэта таму, што яны зараз маюць па рублю ў дзень за змаганне з чарвяком, які знішчае белавежскія сосны. У тым жа нумары паявілася цікавая інфармацыя аб тым, што ў Шчытах, Дубічах і Кленіках са згоды віцэ-губернатара адкрыты бібліятэкі-чытальні імя Паўленкава.

У наступным нумары тыднёвіка ў рубрыцы „З Беларусі і Літвы" той жа Яўген Хлябцэвіч (Халімон з-пад пушчы) змясціў аж тры паведамленні з Чыжоў, Паўлаў і Зубава. З іх даведваемся, што 25 ліпеня 1907 года ў Чыжах згарэла 7 клуняў і не было чым гасіць пажару. У вестцы з Паўлаўскай воласці Яўген Хлябцэвіч інфармаваў, што мясцовыя сяляне выбралі двух дэлегатаў на павятовыя выбары ў Думу. Аўтар піша, што „сход выбраў двух добрых мужыкоў: аднаго з сяла Кленікі Назарыя Федарука, а другога з сяла Іванава мужыка Чэрняка. Абодва людзі шчырыя і цвёрдыя".

Інфармацыя з Паўлаў гаварыла аб тым, што дзесяць паліцыянтаў арыштавала селяніна Пракопа Яблонскага, які заахвочваў сялян пасвіць жывіну на панскім папары. Яблонскі быў пасаджаны ў беластоцкую турму. У 27 нумары Яўген Хлябцэвіч паведамляў аб тым, што ў вёсцы Зубава пакончыў жыццё самагубствам шаснаццацігадовы хлопец, Вязоўскі, які празмерна напіўся і страціў духоўную раўнавагу.

Яўген Хлябцэвіч у 29 нумары „Нашай нівы" змясціў досыць доўгую публікацыю, у якой гаворыць аб камасацыі грунтаў і ліквідацыі цераспалосіцы ў Бельскім павеце ў вёсцы Гукавічы. Аўтар выступае тут як гарачы староннік хутарызацыі і камасацыі грунтаў у беларускіх вёсках. Сваю публікацыю канчае ён пазітывісцкім выкладам рацыянальных крокаў, якія могуць змяніць характар беларускай вёскі і змяніць жыццё яе жыхароў на лепшае:

„Каб паправіць нашу вёску, — піша Хлябцэвіч, — трэба завесці валаснае, уяздное, губернскае самаўпраўленне, трэба зменшыць акцызы, падаткі, трэба, дадаўшы зямлі, упарадкаваць шнуры мужыцкія; напрыклад у нас у гаспадара зямля ў 2-3 мейсцах а то і больш, — раскінута па кавалачку; трэба скрутляць зямлю, трэба даваць мужыкам пажычкі, за малы працэнт, на палепшэнне гаспадаркі, трэба завесці гаспадарскія хаўрусы, склады гаспадарскіх струмантаў, семені, штучнага гною, школкі гаспадарскія, пробныя палі, музеі, чытальні, сельскія банкі, адным словам трэба, каб кіпела жыццё, як у катле вада, трэба, каб народ жыў у свабоднай працы. А цяпер... у нас пакуль што як на магілках".

У рубрыцы „З Беларусі і Літвы" ў 31 нумары „Нашай нівы" аўтар, які падпісваўся псеўданімам Баўтрук, апісаў замяшанне, якое выступіла ў Саколды пры выбарах у Думу. Аўтар звярнуў увагу на непаразуменні паміж праваслаўнымі і каталікамі. Публіцыст канчае артыкул горкай высноваю:

„Цёмны ў нас народ, туды ідзе, куды яго хто пакіруе, ці папы, ці ксяндзы, а без іх ён яшчэ не ведае, куды яму прыпыніцца. Не выучыўся сам разбірацца хто яго прыяцель і брат. Мала навукі ў нас, мала вучылішч, няма бібліятэк, не чытаюць газет.

Жыды, тыя больш абразованы і разумеюць палітыку; злучыўшыся, выбралі (кажуць, што доктара), чалавека прагрэсіўнага, стаіць за свабоду".

У гэтым жа нумары была апублікавана інфармацыя Я. Хлябцэвіча аб перыпетыях, звязаных з адкрыццём бібліятэкі ў Кленіках. Аўтар сцвярджае, што падпіты селянін Піліп пераканаў грамаду не адпускаць на бібліятэку 20 рублёў у год. „Эх, як падумаеш, — канчае аўтар, — колькі з-за гарэлкі робіцца ў нас усякага сораму! Ну, няхай ужо чалавек прапіў сваё сумленне, але ж нашто другім свінню падкідаць! Мо каму б хацелася пачытаць кніжку, а не мокнуць у гарэлцы".

**Алесь Барскі**

 

# Парнасік

## Пралятаюць гады

Пралятаюць гады
І нашы ўсе прыгоды
Скора забываем
І Новы год вітаем.
Хто дажыў да старасці
Меў смуткі і радасці.
Нехта адышоў —
Вечнасць-смерць знайшоў.
Нехта нарадзіўся,
На свет паявіўся.
Быў у лоне маці,
Што шаптала пацер.
Будзе семянін,
Мо і селянін.
А мо нехта здатны,
Беларус выдатны.
Скора дні ляцяць,
Будзем праслаўляць
Нашы дні і сцежкі,
Родныя палеткі.
Будзем праслаўляць
І адбой даваць
Цёмным сілам, хмарам
І агню пажараў.
Што наперадзе?
Бог нас усіх вядзе
Вернаю дарожкай
Каменнем парослай;
Бо ідзем шырокай,
Грахамі глыбокай.
Ад іх адвярнуцца,
Да Хрыста звярнуцца.
Новы год — загадка,
Трэ быць у парадку.
Калі дружна пойдзем,
Дом свой верны знойдзем.
З Богам смела ідзі,
Дружа дарагі!

Мікалай Панфілюк

## Зямля

Усе кажуць пра зямлю,
Што яна — нам маці,
Але ў нас няма каму
Яе шанаваці.
Кожны цягне ўсё з зямлі,
Яе забруджае,
Але каб паратаваць,
Пра тое не дбае.
Едуць людзі ў стройны лес
Ды смецце выкідаюць,
Але штось скажы яму,
То цябе аблаюць.
Хоць ужо прыйшла зіма
І загнала сесці ў хаце,
Але пра зямельку родну
Мусім памятаці.
Шанаваці мы мусім лес
Ды даглядаць прыроду,
Калі хочам лепей жыць
І мець лепшу выгоду.

Мікалай Лук'янюк

## Ёлка

Расла елка на паляне.
Зрэзаў елку сквапны Ваня.

Апранулі дрэўца дзеці.
Цяпер вынеслі на смецце.

На пянёк прысела сойка.
Плачуць дуб, бяроза, хвойка,

Што няма сястрыцы срэбнай,
Што не вырасце пад неба.

Іда Кавалевіч

## Навагоднія думкі

Навагоднюю ноч святую,
І не першую такую,
На чужыне спатыкаем,
Да жадання шмат што маем.

Жывём думкай аб Радзіме,
Дарагой сваёй краіне,
Дзе павісла цёмна хмара,
Быццам нейка боска кара.

Дзе ўказы прэзідэнта,
Як варожага агента,
Нішчаць роднае, святое
Бацькаўшчыны дарагое.

Беларусь у свеце спрэчна...
Дыктатуры жыць нявечна,
Рана, позна, нагуляе,
Па заслугах атрымае.

Дык дай жа ты нам, Новы год,
Веру й мужнасць у народ,
Каб мог ён стаць уладаром,
Сваёй зямлі гаспадаром.

Ю. В-скі
*Лондан, снежань 1997 г.*

# Пазнаёмлюся

Мне 27 гадоў і жыву я пры бацьках у вёсцы Вількава Альштынскага ваяводства, але працую на фабрыцы ў горадзе. Хачу пазнаёміцца ў матрыманіяльных мэтах з дзяўчынай беларускай нацыянальнасці ва ўзросце да 30 гадоў. Асабліва буду рады, калі напіша мне дзяўчына з вёскі. Аб высакароднай і гаспадарлівай беларускай нацыі многа расказвае мне мой бацька.

Януш Дашкевіч

Лісты з фатаграфіяй прашу дасылаць на мой адрас:

**Janusz Daszkiewicz**
**Wilkowo**
**11-015 Olsztynek**
**tel. (0-89) 51 91 036**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Страшна мне стала, калі я прачнулася. Прысніўся мне сон, быццам іду я на работу. Падыходжу да нашага будынка і гляджу ў акно. А там застолле, ды такое багатае: чаго там толькі і не было на тых сталах. Стаіць там сяброўка з працы ды кажа мне: „Застолле гэта не тваё. Гэта іншае супрацоўніцы!" (яна хворая). Я ў торбачцы мела нейкую каўбасу і вараны ці печаны бачок, не памятаю. Выняла я гэта з торбачкі і праз акно падала той сяброўцы, што са мной размаўляла. Што можа абазначаць гэты сон? Ты калісь пісаў, што калі сталы не застаўленыя, дык гэта добра. А тут жа яны, як кажуць, аж ламаліся ад тае закускі.

Ірына

Астроне! Прысніўся мне бацька мае знаёмае. У нейкай хаце яна, знаёмая, я і яе бацька. Бацька стаіць неяк дзіўна апрануты. Як бы ў халаце і я ведаю, што бацька вельмі хворы.

Марыя

Даражэнькая Ірынка! Немагчыма, каб я пісаў, што сніць сталы, на якіх быў, як кажуць, пір гарой, але ўжо закускі няма, — гэта добра. Я мог напісаць, што гэта лепш, чым сніць сталы, запоўненыя рознай ежай. Бо прысніць тое, што прыснілася табе, а менавіта тое застолле на рабоце, — прадвяшчае вельмі кепскае. Твой сон паведамляе пра тое, што ў цябе на рабоце адбудзецца сумная падзея, а можа гэта быць хвароба ці нават пахаванне. Ці не будзе гэта датычыць тае тваё сяброўкі, для якой было наладжана гэтае застолле... Ты ж сама пішаш, што яна была хворая.

Марыя! Твой сон пра бацьку знаёмай папярэджвае, што здарыцца нешта непрыемнае, а можа нават і хвароба ў тваім жыцці ці ў тваёй знаёмай, якая табе прыснілася разам з яе бацькам.

Астрон

# Сабака даражэй чалавека

Калі гаспадар гадуе сабаку, мусіць яго адпаведна даглядаць, стварыць яму добрыя ўмовы для пражывання. На вёсцы — гэта абавязковая цёплая буда на зіму. Калі хто-небудзь здзекуецца над сабакам і заб'е яго ў зверскі спосаб, можа быць прыцягнуты нават да крымінальнай адказнасці. Так яно, на маю думку, быць і павінна.

Аднак не згаджаюся з некаторымі прыродаахоўнымі дзеячамі, якія празмерна хвалююцца за лёс гарадскіх сабак. Так, напрыклад, было падчас акцыі ачышчання горада ад бяздомных сабак у Беластоку. Колькі ж тады было крыку, што валацужных дварнякоў пасялілі то ў надта цесную клетку, то не накармілі ў пару. Мне здалося тады, што ў Беластоку лепей шкадуюць сабак чым бяздомных людзей, якія бядзяюцца па вакзалах, спяць у пад'ездах ці ў ацяпляльных каналах. Для сабак ёсць у нашым ваяводскім горадзе спецыяльны прытулак і спонсары, якія падтрымоўваюць яго дзейнасць. Не ведаю, ці ўсе сабакі могуць ім карыстацца, але ведаю, што не ўсім абяздоленым людзям хапае месц у прытулках і іншых дабрачынных установах.

Дбаючы пра сабак, не забывайма пра бомжаў і іншых няшчаслівых людзей!

Мікалай Лук'янюк

# Двухлітарная крыжаванка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. пакутная рака на ўсходзе Сібіры, 3. Іаган, нямецкі пісьменнік (1763—1825) або Адрыян, нямецкі мастак (1803—84), 5. назіранне, 7. Гіём, французскі кампазітар і паэт (1300—77), 9. горад на Роне перад яе ўпадзеннем у Міжземнае мора, 10. у ВКЛ права на вытворчасць спіртнога і яго продаж, 11. Тэодар, румынскі мастак (1831—91), 12. створанае ў другі дзень, 14. опера Карла Вебера, 16. Ноева гара, 17. Георг, нямецкі філосаф (1770—1831).

**Вертыкальна:** 1. заезны дом з начлегам, 2. безасабовая звышнатуральная сіла ў палінезійцаў, 3. Эр-..., сталіца Саўдаўскай Аравіі, 4. Ференц, венгерскі кампазітар і піяніст (1810—93), 6. прыбор для вымярэння глыбіні, 8. горад на захадзе Венгрыі, 9. хрысціянскія срэтыкі, якія не прызнавалі боскасці Хрыста (мн. лік), 11. любіцель, 13. швейцарскі порт на Рэйне, 14. настаяцель манастыра, 15. горад у цэнтральнай Швецыі на рацэ Юнган. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 48 нумара**

**Гарызантальна:** коклюш, Ядвіга, каплун, рака, прач, Базнанская, сіла, ваба, мікада, курорт, канькі.

**Вертыкальна:** коўдра, юшка, ядун, гарлач, пладаножка, кабала, праява, Сікоку, Барскі, мірт, Дака.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

# Папраўка

У 1 (2173) нумары „Нівы" ад 4 студзеня 1998 года ў допісе Мікалая Лук'янюка „Забытая магіла" ў выніку змены адной літары слова „трупы" перамянілася ў „труны", а ў выніку адзін са сказаў набыў трохі іншы сэнс. Згаданы сказ павінен гучаць так: „Трупы салдат ляжалі на яловым галлі на панадворку Міхала Сахарчука, побач сядзібы Івана Сцепанюка, бацькі маёй жонкі, якой тады было 11 гадоў". Як растлумачыў аўтар, трупы салдат былі накрыты толькі плашч-палаткай. За дапушчаную намі памылку аўтара і чытачоў сардэчна перапрашаем.

Рэдакцыя

Ніва

„Niwa", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
Старшыня Праграмнай рады: Яўген Мірановіч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1998 r. upływa 5 marca 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał 1988 r. wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.





 

# Ніўка

Фрашкі пра нашых

## Аблава

На ліса Віталіса палявалі,
Ды след згубілі.
У карчму заехалі.
Пілі віно і раілі,
фальклор спявалі.
Віталіс стрэльбы ім
зарадзіў арэхамі.

Злаваліся, плявалі:
Такое п(а)ляванне!
На згубу лісу ўжо ж
спраўлялі паніхіду!
Яшчэ й гармату
выкацілі зрання...

А ліс той вольны ўсё.
Жывучая такая брыда!

**Вандал Арлянскі**




## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

У кнігарню ўваходзіць бландзінка:
— Ці маеце нейкую кнігу Бакачыо?
Прадаўшчыца падае ёй кнігу ў чорнай вокладцы.
— Не падабаецца мне яна, — кажа бландзінка. — Можа ёсць нешта ягонае ў сіняй вокладцы?
— Не, няма.
— Ці гэта абазначае, што Бакачыо не напісаў нічога ў сіняй вокладцы?

* * *

Што сказала бландзінка, калі нарадзіла блізнят?
— Не памятаю, кім быў той другі мужчына.

* * *

Маладажоны ўпарадкоўваюць свой пакой, вешаюць карціны:
— Цяпер крыху налева, — далікатна загадвае яна. — Замнога, крышку направа... Вышэй!
Цешча падслухоўвае пад дзвярыма і мармыча пад носам:
— Сама ўзяла б у рукі, бо той недарэка не пападзе!

* * *

— Валя! — загадвае маці дачцэ, — зараз зыдзі з калень сваійго нарачонага.
— У ніякім выпадку: сёння я ўспела перад табою!

* * *

— Андрэй! — звяртаецца маці дзяўчыны да бацькі. — Усё складваецца цудоўна, але нельга дазволіць каб кавалер нашай дачкі так безупынна цалаваў яе.
— Не барані ім, дарагая: калі ж ён мае яе цалаваць, як не да шлюбу?

* * *

Падчас сужонскай спрэчкі жонка хоча дакучыць мужу:
— Ведай цяпер, што выйшла я за цябе на злосць Андрэю!
— Магла б ты смела ісці за Андрэя — на злосць мне.

* * *

Гутарка між маладажонамі:
— Дарагая, — звяртаецца ён. — Мушу табе нешта выявіць: плачу аліменты на двое дзяцей...
— Не турбуйся, — адказвае яна. — Я атрымоўваю на трое!

* * *

Андрэй вяртаецца дадому і засцігае жонку ў слязах:
— Сёння быў страшны дзень, — плача яна. — Нашаму сынку вылез першы зубок а пасля ступіў ён яшчэ і першы крок...
— Гэта цудоўна!!!
— Так; толькі зараз ён упаў, выбіў той зубок і сказаў першае слова...

У кіпцюрах цецерука

## Калі садзіць калаўроты

Адкуль у маёй хаце ўзяўся гэты калаўротак — забі, а не помню. У суботу яго не было тут, у нядзелю таксама ж не, а вось у панядзелак на досвітку, ледзь пралупіўшы вочы — што ж бачу? Казёл, — падумалася ў першы момант. — Божанькі, як піць даць — прывалок у хату казла!

А ці адзін гэта раз, вярнуўшыся з Высокага, апаражняючы торбу з „крышталяў", „сталічных" ды „пшанічных", а бачыўшы маю нездаволенасць, так і пагражаў:
— Маўчы, баба, бо казу прывязу!

Вось і споўнілася! А я, здаецца, у апошні час і не сыкала надта, і ласкавай была, і русалкай хадзіла. А тут — на табе, баба, казу!

Заплюшчваю вочы, лічу. Казлоў лічу: адзін, другі, трэці, пяты — прападзі чорт барадаты! А дзе там, — спаглядаю ў куток. — Стаіць як укапаны! Ногі пярэднія раскірэчыў, галаву задзёр, хвосцікам кароценькім махае, быццам нябачных мух адганяючы. І толькі барада — чаму ж яна ззаду, ды ўверх тырчыць? Людзі мілыя — мала што каза, дык яшчэ і бракаваная! Барада ззаду!

— Ты, — штурхаю яго ў плечы. — Уставай, турыст. Казу карміць трэба.
— А?
— Уставай, кажу. Каза галодная.
— Ашалела баба. Якая каза? Дзе каза?
— Якая?! Дзе?! А ў кутку — што? Божанькі, палавіну сукенкі ўтаптала, а ён пытае — дзе каза!
— Калаўротак, баба. Калаўротак. Падарак табе. І дай паспаць чалавеку.

Сонца тым часам паднялося вышэй, дапамагаючы маім вачам разабрацца ў нюансах зусім блізкага наваколля. І праўда ж — калаўротак: задзіраючы ўверх кудзелю, стаіць і нічога не думае.

— А навошта нам калаўротак, — пытаю. — Народны тэатральны калектыў будзем арганізаваць, ці як?
— Пасадзіш і хай расце. Маладыя будуць, — прамармытаў мой, заглыбляючыся ў сон.

І такім чынам пачалася мая галгофа. Лёгка сказаць — пасадзіш! А як садзіць? А дзе садзіць? А — што галоўнае — калі ўваткнуць у глебу, каб не змарнаваўся і патомствам абдорыў?

Часопісаў у нас шмат, а пішуць найчасцей пра князёўну Бамбуазі: з кім спала? як села? што сказала? што з'ела? Калі садзіць калаўроткі — маўчаць газеты. І спецыялістычныя кніжкі маўчаць, і ўсе іншыя сродкі масавай інфармацыі. Аграном, і вось табе — які аграном! Усім аграномам аграном — слава беластоцкага ВОПР, доўга чухаўся за патыліцу, кніжкамі абклаўся, у камп'ютэраў дапамогу прасіў, а параіў тое, што раней непісьменная цётка Макарыха падказвала: тут, сказаў, — народную аграномію трэба.

А зіма ідзе на спад. Сям і там выпаўзаюць з-пад снегу чорныя палеткі і манецаца, і круцяць пладаноснымі задніцамі, бы дзеўкі ў ваенны час, мужчынскіх пяшчотаў галодныя.

Народная аграномія апынулася ажно за семдзесят вёрст, у новазаснаванай вёсцы Дубінка.

— Калі калаўротак беларускі, сапраўдны, народам выбраны, тады ёсць рада на ягоную бясплоднасць. Інфарматар адзіны пра жыццё беларусаў, — сказала народная аграномія, выслухаўшы маю біяду. — Адзіны слушны, адзіны прафесійны, адзіны нязменны, памілуй нас, — прашаптала, забываючы на хвіліну пра маю тут прысутнасць.

— Каляндар за 1996 год чытай. А цяпер ідзі ўжо. За сябе не аглядайся, а на кожным раздарожжы — плюнь. Тры разы за левае, тры разы за правае пляча. Не забудзь толькі.

Я і не забыла. Што наплявалася, то наплявалася, а калаўроткі растуць. На 13 старонцы інфарматара ўсё напісана — і як я здагадалася, — калаўроткі трэба садзіць у сакавіку. Растуць яны няспешна, усё-ткі высенькі пакуль арлянскія баяністы (стар. 15), як і ўсе іншыя жыхары нашых вёсак, пераедуць у Беласток 2020 года, павялічваючы колькасць насельніцтва з 300 да 400 тысяч жыхароў.

Распісалася я, разгаманілася, ну, вядома — баба. А часу ўсё не хапае. І дзе ж ён, час мой, — спытаеце. А вось час мой на будове. А што будую? Музей будую. Беларускі. Так спадабалася мне сельскагаспадарчая праца, што ў жніўні збіраюся садзіць трускалкі. З інфарматара (стар. 26) ведаю пра трускалкі ўсё. На Беласточчыне паявіліся яны ў канцы пяцідзесятых гадоў і бываюць — як паказвае фатаграфія — мужчынскага і жаночага полу. Мужчынскія трускалкі дасягаюць больш размеры, затое жаночыя — куды больш сакавітыя. Ураджай трускалак значна ўзмацняецца кампостам.

А цяпер, пэўна, спытаеце, прычым тут музей беларускі? Я таксама не ведаю. Я проста веру ў адзіны інфарматар. Калі на старонцы 21 побач з кампостам стаіць музей, значыць — адно аднаму патрэбнае. Вось і будую музей.

Працы многа, тэрмін кароткі, а спадзявацца на мужаву дапамогу — дарма. Учора зноўкі пацягнуўся ў Высокае.

**Адзіная добрая гаспадыня**
**Міхася Андрасючка**

## Сардэчныя ТАЙНЫ

Мілае Сэрцайка! Ужо не ведаю, як з гэтымі мужчынамі быць. Найбольш мяне ў іх дражніць самаўпэўненасць. Глядзі ты, ён будзе выбіраць! А ты, нябось, стой і чакай... І цешся яшчэ, калі ён цябе захоча выбраць! Не, браткі, так далёка не заедзеце.

Перад святамі рабіла я ў хаце парадкі. Мужык у мяне патрабавальны, а сам рукі да нічога не прыложыць. Мае быць чысценька, парадак, каб усе лямпачкі гарэлі, краны не працякалі, ракавіны не затыкаліся, ды каб дашок над газавай плітой цягнуў добра.

А як жа самой усё гэта дагледзець? Ну, маю добрага суседа — „залатую ручку". Ён жа электрык, а ніхто мне лепш за яго кранаў не паладзіў, вокан не памаляваў, падлогі лакам не пакрыў.

Дай, думаю сабе, запрашу яго, каб перад святам усё адрамантаваў, што сапсавалася. А як жа! Згадзіўся ён вельмі ахвоча. Я — шчаслівая, што ўрэшце паявілася ў хаце мужчынская рука. Душа проста радуецца, калі бачыш, як усё становіцца быццам новае. Стаю, прыглядаюся і падхвальваю чалавека. Раз — бо ёсць за што, два — каб хаця не ўцёк захутка, а рабіў памалу, развважна. І так хвалю я, хвалю гэтую „залатую ручку" і не падазраваю нават, якія думкі клубяцца ў яго галаве. Ну, дальбог, я ж „ручку" хвалю, а не мужчыну.

А што, калі і які мужчына крыху падхвалю... Мо лепш працаваць будзе, усё яшчэ дакладней зробіць. Прыгожы з вас мужык, кажу. Пэўна, ад баб адбою няма?! Гавару гэта проста ў вочы, па-сяброўску, па-суседску. Бо і прыгожы дзядзька, а што...

Бачу, вочы майстра робяцца масляныя. Задаволены, думаю. Ат, не буду шкадаваць чалавеку радасці: няхай цешыцца! Хаджу вакол яго, прыгавараваю ды і памагаю адначасова. Паставіў ён на кухні крэсла, а на яго табурэтку. Хоча ўзлезці ды памяняць стары абажур на новы. Чалавек прыгожы, ды невялічкі. Я, як бачыш, падскочыла да яго, памагаць буду. Схапілася за тую табурэтку, трымаю яе, каб ён не зваліўся. Яшчэ не хапала, каб перад святам узяць грэх на сваю душу! Не, да гэтага я не дапушчу!

Трымаю я зэдлік з усяе сілы, быццам прырасла да яго, баюся варухнуцца, каб хаця майстар не страціў раўнавагі і не паляцеў уніз. Зэдлік засланіў мне ўсё на свеце. Толькі рот мой не закрываецца: усё хвалю майстра ды хвалю. Раптам бачу, як ён нахіляецца і абнімае мяне. Бацюшкі, ён хоча мяне цалаваць!

Не магу паварушыцца, бо ён паляціць і абавязкова нешта разаб'е ў мяне на кухні. А ён, прысеўшы, быццам качка, нават і не думае змяняць пазіцыю. Як вырвуся — будзе грукату на ўвесь блёк. Зараз жа прыбяжыць суседка знізу. У нас дастаткова дзверы мацней зачыніць, як яна ўжо ў нас. Што будзе, як убачыць мяне з суседам...

Але ж нешта рабіць трэба. Ох, суседзе, вы мяне не так зразумелі, пачала тлумачыцца я. Я тлумачылася, а не ён, разумееш, Сэрцайка! Яму дык можна з лапамі лезці, а я мушу перапрашаць, што пару кампліментаў чалавеку, ад якога я залежная, сказала.

На душы зрабілася брыдка. І злосць мяне ўзяла. Без канвенансаў кажу: „Злазьце, бо я пускаю!" І што ты думаеш? Адчапіўся! Балазе новы абажур быў ужо зачэплены.

А яшчэ, падумай, не хацеў браць за работу грошай. Гэта мяне ўжо зусім прыбіла. Каб я была мела рукі не занятыя, дальбог, смальнула б яго тады па твары. Але і так падумаць: усё ж такі майстар, „залатая ручка", а што як раззлуецца ды другі раз не прыйдзе...

А што ты наконт усяго гэтага думаеш, Сэрцайка?

**Лідка**

Лідка! Думаю, што сітуацыя была няэручная сапраўды па дзвюх прычынах: раз — твая пазіцыя, два — а што будзе, як больш не прыйдзе. Але, мяркую, што ты ўсё зрабіла даволі развbooжна і культурна.

Што датычыць тваіх кампліментаў — дык, відаць, недастаткова ведаць, з кім можна піць гарэлку і іграць у карты, бо трэба яшчэ ведаць, каму можна гаварыць кампліменты. Іншы дурнее ўмомант.

**Сэрцайка**